

напачатку павесяліўшы гаспадара, прыспешылі свае канчыны…

«Пасля іх я падару табе, валадар, і цнатліўку Літву, і ганарліўку Польшчу», — згадаліся словы Скуратава, якім так і не наканавана было збыцца: верны пёс склаў сваю галаву ў Лівоніі. У адказ Іван загадаў спаліць жывымі ўсіх палонных — лівонцаў, немцаў, шведаў, і зноў задумаўся над абяцаннем слугі-нябожчыка.

Пасля Люблінскай уніі Літва з Польшчай склалі адну дзяржаву — Рэч Паспалітую, і ейны тронложак пасля Жыгімонтавай смерці быў вольным.

— Ліс не пакінуў патомства і не дамогся маёй смерці, — разважаў Іван. — А таму ці не зрабіць мне жонку яго, дзяржаву яго, сваёй наложніцай?

Усё часцей заходнія віжы ды пасланцы даносілі яму: Польшча з Літвой разглядаюць магчымасць запрасіць да сябе каралём маскоўскага цара. Найперш шапталіся аб тым простыя рамеснікі ды дробная шляхта, даводзячы:

— Прыеліся нам змены ды неразбярыхі. Хай прыйдзе цар-бацюхна ды разбярэцца. Парадак навядзе сваёй строгай рукой…

І новая мара апанавала Івана: адыходзяць Лівонія і Казань — а я збяру землі славянскія, і ад моцы такой дзяржавы аслепнуць ворагі!

У Маскву прыехаў упаўнаважаны польска-літоўскай дзяржавы Варапай і, паведаміўшы пра смерць свайго караля, сказаў аб прапанове сенатараў шукаць ягонага наступніка ў суседніх землях.

— Многія жадалі б бачыць на тым месцы маскоўскага царэвіча, — загадкава падагульніў ён.

А Іван нібыта ўжо быў да таго падрыхтаваны — спакойна прыгладзіў сухенькую бараду, узняў свой вострый нос і, пад руку правёўшы даўганогага Вара-

пая ў трапезную, дзе наладжвалася найбагацейшая пачостка, загаварыў задаволена, ласкавым шэптам:

— А што… Некалі яшчэ бацька мой выступаў прэтэндэнтам на польскі пасад. Ведаю, што ў Польшчы і Літве пра мяне распускаюць чуткі як аб чалавеку злым і жорсткім. Але на каго я злы? Супраць здрадаў баярскіх, якіх у тваёй дзяржаве няма, злы, а таму я буду абыходзіцца з вашымі людзьмі інакш. І не толькі захаваю там старыя прывілеі, але і новыя дам. Для добрых людзей — і я добры! Ім гатоў апошнюю адзежу аддаць, — і цар нечакана пачаў расшпільваць расшытую золатам далмаціку, каб накінуць яе на госця.

Варапай, спалохаўшыся, далікатна затрымаў ягоную руку і ніякавата ўдакладніў:

— Наш сенат разаслаў такіх людзей, як я, у некалькі краінаў. І кандыдатаў будуць выбіраць прынародна — сенатары і дэлегаты… Мне ж даручана разведаць пра магчымасці маскоўскіх царэвічаў — Фёдара ці Івана…

Аднак цар нібыта не зразумеў:

— Так, я маю двух сыноў, і яны для мяне — як вочы. Навошта ж вы хочаце зрабіць мяне сляпым? Ды і ўявіце, якая слаўная дзяржава створыцца — як Рым з Канстанцінопалем, як новы Іерусалім! — і ягоныя вочы апантана загарэліся пад парадзелымі брывамі. — А калі мяне абяруць польскім гасударом, я гатоў прапанаваць у падарунак Полацак…

Варапай мусіў тэрмінова адкланяцца і ад’ехаць, каб перадаць пачутае ў Кракаў. А праз месяц у Маскву вярнуўся пасол Вялікага Княства Міхаіл Галабурда — і перадаў цару новыя ўмовы: зварот не толькі Полацка, але і Смаленска, а таксама прыняцце царом каталіцкай веры. Калі гэта абгаворваецца, цару неадкладна належыць выслаць у Варшаву



сваіх давераных асобаў у складзе новага маскоўскага пасольства, каб мець сустрэчы з сенатарамі і выбарцамі ды папулярызаваць перад выбарамі свайго патрона.

— Што?! Я цябе правільна зразумеў? — грозна зіркнуў на пасла Іван. — Я павінен яшчэ некаму нешта даказваць? Калі Рэч Паспалітая хоча сабе каралём маскоўскага цара — а я перакананы, што большасць народу жадае таго, — хай ідзе і чалом б'е! Я ж — не бедны жаніх на выданні! — ён намерыўся сказаць яшчэ штосьці узнёслае і ўрачыстае, але нечакана ў галаве бліснула Кацярына, і загарэлася крыўда на яе з нябожчыкам-братам Жыгімонтам, і гнеў на ўсіх езуітаў-каталікоў. — У свеце няма гасудароў, якія б маглі пахваліцца сваім манаршым родам у два стагоддзі. А я — нашчадак рымскіх кесараў! Таму выпрошваць лаўры ў свой вянок не збіраюся, як некаторыя немцы ці французы, і вазьму, што належыць, сам. І каранаваць мяне будзе наш мітрапаліт… — цар з недаверам агледзеў Галабурду і, хоць вопытны ў дыпламатыі прыгожы твар тога не люстраваў аніводнага пачуцця, накінуўся з прыдзіркамі: — А што ты ўсміхаешся? Чаго такі задаволены? Разумней за ўсіх?! Думаеш, не ведаю, як ты, у Маскве жывучы, лісты ад Жыгімонта ворагам маім перадаваў ды да здрады іх падштурхоўваў? І атрутай юдаў-курбскіх цешыўся? Можа, і друкароў маіх нагаварыў уцячы? Чуў, яны там цяпер тваімі Хадкевічам ды Радзівілам прыгрэтыя. У людвісарнях* варожых гарматы пачалі ліць… — і цар замоўк.

---

* *Людвісарня* — гарматная майстэрня. У XVI стагоддзі ў Вялікім Княстве найбольш вядомымі былі гарматні ў Вільні, Нясвіжы і Навагрудку.

Галабурдзе гаварыць не было чаго. Пасольства пачало развітвацца, а Іван, ужо лагодна хітаючы галавой, давяршаў свой маналог:

— Анікому нельга верыць: ні другу, ні жанчыне, ні дзяржаве.

…Няма горшага пакарання на гэтым свеце, як бачыць гібель здзейсненага табой і нязбытнасць задуманага. Бачыць, як прахам ідуць жыццёвыя патугі, як знікае тое, на што спаліліся ўсе сілы ды нервы. І спадзяванні…

У снежні 1575 года каралём Рэчы Паспалітай быў абраны невядомы ў Масковіі Батура, і наноў абражаны і разгневаны Іван вырашыў напачатку адпомсціць шведам ды іхняму Юхану. Цар сам ачоліў паход на занятыя шведамі эстонскія землі, асадзіў важны стратэгічны горад Пернау, які некалі заняў Жыгімонт, і захапіў Леаль, Лодэ, Фікель, Гапсаль, спустошыў Эзэль. І крыху супакоіўся.

Аднак пасля шасцімесячнай асады Рэвеля перад шведамі адступіла войска Шарамецьева, а сам князь загінуў. Спешна сабраўшы пад Ноўгарадам новае войска, Іван зноў павёў яго ў паход — але ўжо не на Рэвель, а на польскія ды літоўскія землі Лівоніі. Помсцячы за свае абразы, ён загадваў ярасна караць палонных: выколваць вочы, секчы і паліць.

Пад нечаканай навалай не ўстаялі некалькі гарадоў-цвержаў — і пачалі даходзіць звесткі аб тым, што супраць маскоўцаў збіраецца войска Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства пад ачолам самога караля Батуры, — але Іван яшчэ не мог астыць. Пакінуўшы полк стральцоў рабаваць Амерадэн, ён з тысячай сваіх апрычнікаў падаўся ў Вендэн і заняў горад. Гарнізон цвержы не захацеў здацца і ўзарваў сябе. І тады Іван загадаў пасадзіць на кол аднаго з самых



тытулаваных палонных — немца Віка. Усміхнуўся, пачуўшы ягоныя стогны, — і падаўся ў Дэрпт, дзе сустрэўся з палком стральцоў, прысутнічаў пры пакаранні жонкі і дзяцей уцекача Курбскага, пасля чаго з'ехаў у Маскву.

Але і дома не мог суняцца. Пасля доўгага застолля сярод ночы прывёў ён конны атрад апрычнікаў у Нямецкую слабаду, і сыны Іван з Фёдарам былі з ім. З дамоў пачалі выцягваць і гвалціць сонных дзевак, а тых, хто крычаў ды непакорыўся — забівалі на месцы. Багатыя іншаземцы прапаноўвалі выкуп — грошы ў іх бралі, але ўсё роўна білі. Калі ж небаракі пачыналі маліцца — ім адразалі «ерэтычныя» языкі. Трупы складвалі ў крушні і палілі. Малодшы царэвіч, не вытрымаўшы крывавага відовішча, уцёк — і толькі тады бацька загадаў вяртацца ў Крэмль.

І ўжо адтуль глядзеў, як прахам ідуць жыццёвыя патугі, як знікае тое, што куплялася цаной дзясяткаў тысячаў жыццяў, як развальваецца сабранае ягонай царскай рукой…

Глядзеў на асаджаны каралём Батурам Полацак, як дагэтуль — на вайсковыя зборы заходняй суседкі, — і не мог вызваліцца з халаджава-атрутнага прадчування ліхой наканаванасці. І ратунку ад яе — не знаходзіў.

А Батура, колішні трансільванскі князь, — трывожна думалася Івану, — гэты мадзьярскі самазванец і выскачка, гэты каранасты недаростак, гэты недароблены рыцар з нізкім ілбом і вялікімі скуламі, глыбока ўсоўвае свой доўгі нос у ягоную адваяваную вотчыну. І адкуль на тое столькі сілаў ды казны знайшоў? Яго войска, як паведамлялі віжы, налічвала больш за 20 тысячаў — і ўсе добра ўзброеныя шаблямі, сякерамі, дзідамі і мушкетамі. І не толькі палякі ды літоўцы, але й тысячы немцаў

ды ягоных аднакроўнікаў вугорцаў ішлі пад сцягамі «Арла» ды «Пагоні». І сотні гарматаў паспеў выліць, і аграмадны перасоўны мост на чоўнах умудрыўся скласці, па якім летам праз Дзвіну як па тоўстым лёдзе перайшоў…

Моцна балела галава, не хапала паветра, а чорныя думкі не адступалі ад Івана. «Не толькі ворагі ўнутраныя дзяржавы маёй, якіх апрычнінай выпальваў, гібелі мне жадаюць. Паўсталі і звяры знешнія — як зграі д’яблавыя па ўсёй зямлі — ад татарскага ханства да каралёў нямецкіх, французскіх ды імператара Максіміліяна. Ці не яны Батуру на мяне і выправілі? І ці не яны грошай на тое не пашкадавалі?* Як бяльмо ім усім царства маё, як стрэмкі — поспехі мае. Аскаліліся, як некалі на царства Канстанцінава Візантыю. Няславяць мяне па ўсім свеце…» — Іван яшчэ раз паглядзеў на дасланыя яму адціснутыя ў Батуравай паходнай друкарні на польскай, рускай, маскоўскай, нямецкай і вугорскай мовах кніжыцы, у якіх, як даклалі яму, апраўдваўся паход на Масковію ды распавядалася пра лютага цара-крыважэра…

— Ці не наш беглы дыякан-друкар Іаан Батуру гэтыя старонкі ціснуць пасабляе? — цар нахмурыў лоб і агледзеў прысутных баяраў.

— Кажуць, што так… А яшчэ ён ліцвінам прыдумаў новыя гарматы-марціры. Шматствольныя,

---

* Насамрэч антымаскоўскі паход караля Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Батуры быў падрыхтаваны ўласнымі сіламі і сродкамі. Сойм аб’яднанай дзяржавы зацвердзіў перад тым двухгадовы «вайсковы» падатак, які ішоў на ўзбраенне. Войска ж актыўна папаўнялася сялянамі, якіх за добраахвотны запіс вызвалялі ад усіх павіннасцяў.



што пад Полацкам білі!.. Трэба было самога дабіць, сабаку! — у розныя галасы прагучала ў адказ.

Напрыканцы жніўня 1579 года Полацак перастаў быць маскоўскім. Войска пад ачолам Батуры заняло Сокал і бліжэйшыя да яго цвержы, князь Канстанцін Астрожскі дайшоў з вернымі яму палкамі па Северскай зямлі да Старадуба, аршанскі староста Кміта зваяваў Смаленшчыну — а Іван са сваім неслухмяным бедным войскам, пазбаўленым у апальныя гады таленавітых ваяводаў, не меў сілаў на супраціў.

Цар — збег. Спачатку ў Ноўгарад, затым у Пскоў. І паслаў літоўскаму канцлеру Валовічу і ваяводу Радзівілу лісты аб тым, што адмовіўся ад абароны Полацка, каб не ліць марна братнюю кроў. «Веру, што ў свой чарод і вы зробіце ўсё, каб на нашых хрысціянскіх землях аднавіўся мір», — далікатна намякаў Іван. І люцеў да эпілептычнага прыпадку, дачуўшыся, што за ўзяцце Полацка Рымскі Папа выслаў Батуру асвечаныя на Каляднай месе меч і дзіду, — і той бязродны кароль зноў сеў на каня і выступіў на Вялікія Лукі…

Іван мусіў паслаць Батуру ў Вільню мірную эпісталу, у якой кароль называўся братам. За мір Іван прапаноўваў усю Лівонію, а калі трэба — пагаджаўся нават адмовіцца ад свайго тытула, паколькі, як завяршаўся ліст, ён — гасудар не з учарашняга дня, а Богам памазаны цар — вышэй дзяржавы.

Але Батура расчытаў Іванава яхідства — і запатрабаваў у Масковіі разам з Лівоніяй Ноўгарад з Псковам і Смаленскам. І, атрымаўшы ад Івана адказ з абразамі, накіраваўся ў Полацак — рыхтаваць новы паход. А каб не прайграць вайны слоўнай, каралеўская канцылярыя падрыхтавала Івану адказ

на сарака друкаваных старонках, які стаў вядомым у многіх еўрапейскіх дварах. «…Нагадваем табе, хто паўсюдна хваліцца сваім Божым абранствам ды радствам з рымскімі імператарамі, што маці твая была дачкой простага літоўскага здрадніка, а продкі твае злізвалі малако з хвастоў татарскіх кабылаў. Кроў жа сваю ты назаўсёдна спаскудзіў у паганых оргіях… І кура ратуе куранят сваіх, а ты, арол двухгаловы, баязліва хаваешся!»

А што яму, загнанаму ў пастку паміж захадам, поўначчу і поўднем, было рабіць, — з пустой казной і без адзінага саюзніка? Выправіў усе палкі на абарону Пскова, а сам з некалькімі сотнямі верных апрычнікаў схаваўся ў п’янках ды разгулах. І вымольваў хоць часовае перамір’е. І скрыгатаў зубамі, калі віцебскі ваявода захапіў ягоную цвержу паміж Смаленскам і Лукамі, — ды загадваў лепш аддаць усю вобласць, а не пярэчыць ворагу.

І ўсімі сваімі жыламі ды венамі адчуваў, што няма чалавеку на зямлі горшай кары, як перажыць узлёт свой паднебны — і зведаць гібель здзейсненага і задуманага! Сусед-кароль, аб існаванні якога ён, цар і ўладар вялікай зямной прасторы, яшчэ некалькі гадоў назад і не здагадваўся, здольны адабраць у яго не толькі здабытае, але і задуманае: Батура хоча даказаць, што шлях з Канстанцінопаля ў Маскву ішоў праз Кіеў і Полацак і што Трэцім Рымам, як і новым Канстанцінопалем, з’яўляецца ягоная, а не Маскоўская, дзяржава!

Івана нішчылі і звонку, і знутры, і страшныя прадчуванні ўжо не пакідалі царскую галаву. Ён разаслаў па ўсіх манастырах граматы з просьбай памаліцца за свае грахі — і сам зажадаў манаскага пострыгу.

Цар скрывіўся — і стаў меншы ростам. Некалі шырокія грудзі яго ссохлі і выяўлялі цяжкае дыхан-



не пакутніка. Нос завастрыўся і выгнуўся, а вочы заглыбіліся пад высахлыя скулы.

Ён ужо не брыў галаву, і на вушы ападалі тонкія сівавата-рудыя пасмы — ды зліваліся з камечанай барадой.

Цела ягонае распухла і пакрылася незагойнымі раскелінамі. Ногі не трымалі, і цара вымушаны былі насіць.

Падобная слабасць здаралася яшчэ некалькі гадоў таму, але траўнік Бамелій знімаў яе нейкім белым прысакам. Цяпер ён сам — прысак, бо быў абвінавачаны ў крамольных сувязях з Батурам і спалены. Новыя ж лекары анічым дапамагчы не маглі. Ды і не давяраў ім цар, еў і піў толькі з рук новага прыбліжэнца Бельскага, апрабаванага яшчэ апрычнінай. Гэты кучаравы недачасна памажнелы дзяцюк з нервовай чырванню на шчоках і пульхна-вільготнымі вуснамі ў апошнія месяцы быў з царом неадлучна…

Перад сном Іван захацеў наведаць скарбніцу, доўга разглядаў каштоўныя камяні ды падарункі, распавядаў, хто і калі іх перадаў ці прыслаў.

— Гэты алмаз — найбольшы ў свеце. Ён суцішае гнеў і дапамагае чалавеку саўладаць з сабой. Але я не дакранаўся да яго… Цяпер толькі… — цар пакруціў камень перад агнём свяцільні і паклаў назад у шкатулу. — А вось гэты скіпетр са слановага біўня, які завецца Адзінарог, адшкадаваў мне некалі імператар Максіміліян. Паслы сцвярджалі, што ён лякуе ад цяжкіх хваробаў, нават мор адганяе.

— Дык, можа, гасудар загадае яго ў апачывальню перанесці? — далікатна прапанаваў Бельскі, і ў ягоных вытарачаных — як у рака — вачах бліснула надзея.

— Позна… — цар аблізнуў губы і цяжка ўздыхнуў. — Завуць бацькі да сябе. Ды і Бацька Нябесны пытанні рыхтуе… Памятаеш? — ён узняў доўгую галаву і прашаптаў: — «Разышлася тады вестка між братамі, што вучань той не памрэ. Але Ісус не сказаў: «Не памрэ», а толькі: «Калі Я хачу, каб ён застаўся, пакуль прыйду, што табе да таго?»… Ёсць яшчэ шмат іншага, што ўчыніў Ісус, але каб усё запісаць падрабязна, дык, думаю, не змясціў бы ўвесь свет кніг, якія б меліся быць напісаны»*, — і раптам цар ажывеў, наструніўся і, зрываючы да хрыпаты голас, закрычаў: — Дзе кніга?! Кніга дзе?!! Па якой я перад Макарыем чытаў, якая ў Адашаву смуту ў мяне пад галавой ляжала?

Бельскі неўразумела лыпаў чырвонымі вачыма, а цар ажно задыхаўся:

— Дзе, пытаю, кніга?.. Евангелле ад Іаана… рукапіснае… з Візантыі мне прывезенае… дзе?!.

Яму стала млосна, ліхаманкава задрыжэлі рукі і галава, у вачах пацямнела.

— Худа мне… Худа… Нясіце адсюль… Другім разам дагледзім…

Назаўтра, 18 сакавіка 1584 года, цар адчуў сябе лепш. Уся дворня, архіўнікі і Пісчы прыказ сполашна шукалі візантыйскі манускрыпт, а Іван першы раз за тыдзень паеў і загадаў нагрэць лазню. Пазваў сына Фёдара і доўга наказваў, як належыць кіраваць дзяржавай і народам: дабрачынна, з любоўю і мілатой, пазбягаць вайны з хрысціянамі, памяншаць падаткі-цягла, вызваляць з турмаў палонных ды вязняў. Хворы на галаву Фёдар уважліва слухаў і, задаволена ківаючыся, усміхаўся…

---

* Гэта апошнія радкі Евангелля ад Яна.



Пасля лазні цар узлёг каля невысокага шахматнага століка і пачаў расстаўляць фігуры: караля, каралеўну, пешкі… Паслабелая рука ўзняла каня — і знерухомела.

«І вось конь сіні, і на ім вершнік, імя якому смерць», — ці прашаптаў, ці падумаў Іван — і праваліўся ў чорны квадрат шахматнай дошкі…

# 8

*— ...Не знаю, як і сказаць... — па закрытай лініі гучаў нацята-спалоханы голас старшыні Службы дзяржбяспекі Бадакіна. — Заяц... захапіў цягнік у метро. Састаў — амаль пад Адміністрацыяй, а ў яго — бомба...*

*— Ты што — укалоўся?! — правіцель неўразумела правёў пальцам па вуснах.*

*— Ніякае на хер не ўкалоўся! Што рабіць?!.*

*Раней падобным тонам гаварыць з гаспадаром старшыня Службы дзяржбяспекі нават і ў думках не высмельваўся, і гэта, як нашатыр, ацверазіла Мароза.*

*— Дык ён жа ногі лячыў... І як... захапіў цягнік?.. Навошта?! — у роце стала суха і горка.*

*— Захапіў, кажу. Ён не адзін. Па электронцы ліст прыйшоў... І ў дыспетчарскую па рацыі паведамілі. У Зайца бомба ў кейсе! Праверылі — не бляфуе. У яго на хаце знайшлі ўсе прычындалы! Траціл і ўсё такое... І яшчэ некалькі «эргэдэшак»... Мае прабілі па «серыйцы» — начынне з Горна-Касоўскай аўтаноміі. Верагодна, і памочнікі ў яго адтуль...*

*— А чаго ён хоча? — Мароз пераставаў разумець рэчаіснасць.*

*— З вамі пагаварыць... Абмяняю ўсіх заложнікаў, трындзіць, на правіцеля...*

*— Ён што, б……, е…..ся?!*

*— А х.. яго знае!..*

*Расцягнулася доўга-трывожная паўза.*

*— Звяжыце мяне з ім, — нарэшце ачомаўся правіцель, перачакаў горкія нацяжныя гудкі ў слухаўцы і пачуў Зайцава:*

*— Слухаю.*



*— Мікола Сымонавіч, добры дзень! Гэта, я разумею, жарт? — ён нават праз сілу паспрабаваў усміхнуцца.*

*— А… Іван… Здароў будзь, — ціха прашаптала слухаўка. — Ведаеш, я шкадую, што не навучыў цябе некалі: жыццё — не жарты. Яно — рэч сур’ёзная. Ну і рады я, канечне, што нарэшце з табой пагаварыць магу. Вялікім ты стаў, занятым… Што табе са мной час марнаваць?.. Дарагавата, праўда, за такую сувязь плаціць: усе запасы аддаў, кватэру і дом над рэчкай заклаў, каб бомбачку прыкупіць…*

*— І…*

*— Да гэтага «і» былі ў нас з табой, Ваня, яшчэ і «а», і «бэ», і «вэ»… Памятаеш, як я неаднакроць распавядаў пра цёзку твайго — цара Івана Жахлівага, пра Евангелле ад Яна і царства слова?*

*— Ну… — неспадзеў залыпаў правіцель. — Як там?.. Напачатку было слова… Так?*

*— Не! Не так. Не* ***было*** *слова, а — ёсць. Напачатку было, ёсць і будзе слова! І* ***будзе*** *— нават калі і нас забудуць. Вось чаго ты так і не зразумеў…*

*Мароз незадаволена цмокнуў і скрывіўся:*

*— Ну і чаго ты хочаш?*

*— Хм… Табе ж, пэўна, даклалі ўжо. Давай!.. — Заяц прыхінуў да сотавіка далонь і, ледзь не скінуўшы пальцам акуляры, зашаптаў яшчэ цішэй, каб у вагоне не было чуваць: — Дав-а-ай… Гэта ж прасцей, чым у той тваёй плацэнце: раз — і чакаць не трэба! Бах — і ты адразу ў вечнасці, як выратавальнік людзей, — голас стаў распеўным, з заўважным хваляваннем: — Ра-зу-ме-еш, гэта як у «Тарасе Бульбе»: я цябе парадзіў — я і… А мне ж усё роўна губляць няма чаго… Зайцы ж*

*не жывуць вечна, бо страх не ратуе ад смерці... Два-тры месяцы дактары адмералі. Некалі ж ляпнуў, памятаеш: «І хай адсохнуць мае ногі, калі ты не станеш прэзідэнтам...». Вось і спраўдзілася сказанае... Ногі — дыябет з'еў, а ты — так і не стаў сапраўдным прэзідэнтам...*

*Мароз узарваўся:*

*— Дык ты што — усю гэтую байду ўсчаў, каб мне лекцыю прачытаць?!*

*— Не, Ваня, не... — голас Зайца паспакайнеў. — Каб сказаць тое, што сказаў. І засведчыць перад народам, што ты, ягоны правіцель, пабаішся* **спусціцца***, каб суграмадзянаў ад старога маньяка вызваліць...*

*Настала даўкае маўчанне, якое ўрэшце абарвалася продумным:*

*— Ну ўсё... Не магу больш гаварыць. Пачынаюць людзі азірацца...*

*— Што б гэта было, калі б кіраўнік краіны слухаў кожнага старога маразматыка? Узрывай! Давай!!! Тарас Бульба мне знайшоўся...*

*— І я цябе, Ваня, люблю. Бывай! — у слухаўцы застралялі кароткія гудкі.*

*А затым Заяц паправіў акуляры, прыгладзіў савіную брывіну, нібыта незнарок прыхінуўся вазком да сценкі — і знізу пастукаў па дзвярах. У кабіне тое пачуў «Вусач» і пацягнуўся да мікрафона.*

*— Таварышы пасажыры! — захрыпелі ягоным голасам вагонныя дынамікі. — Збой у электразабеспячэнні лініі наладжаны. Асноўнае асвятленне ўключыцца на бліжэйшай станцыі... Асцярожна, наступная станцыя «Лістападная».*

*— Ну вось, нарэшце! А то я ледзь на сустрэчу не спазнілася... — нечакана прагаварыла брунет-*



*ка ў кароткай чорнай сукенцы са стразамі. Тая, зямінкамі на шчоках...*

*— Напэўна, на спатканне? — усміхнуўся ёй у адказ Заяц. — Паспееце, абавязкова! А падобныя затрымкі, — ён сказаў гэта знарок голасна, — і ў Лонданскім метро здараюцца...*

*— ...Давай зялёную, мы едзем! — хрыпла паведаміў у дыспетчарскую «Вусач» (звольнены пасля прызабытай ужо забастоўкі метрапалітэнаўцаў чыгуначнік-чырвонадыпломнік, а цяпер — начны грузчык), адарваў прыклееныя вусы, зняў зацемненыя акуляры, семафорны фіялетавы пінжак — і выкінуў усё ў фортку. Шчоўкнуў рубільнікам — і ў саставе стала цёмна. Падсунуў соннаму машыністу нашатыр і незаўважна выбраўся з кабіны ў вагон, дзе схаваў у кішэні пальчаткі...*

*— Гэта дыспетчарская! Якую «зялёную»? Хто гаворыць?!! — закрычала ў кабіне рацыя.*

*Машыніст абудзіўся, неўразумела залыпаў наўкруг, схапіў мікрафон:*

*— Алё! — у роце сушыла, і ён пракаўтнуў даўкі камяк. — Алё! Дыспетчарская, што здарылася? Гэта Марчанка з «Васьмёркі». Я тут, здаецца, адключыўся. Нехта з праверкай прыйшоў... І далей нічога не памятаю...*

*Жыццё — не мёд, і людзі — не пчолы. Аднак шматпавярховыя ўнівермагі ды ніжэйшыя крамкі і кавярні каля зачыненых станцый метро нагадвалі растрывожаныя вуллі. Растрывожаныя і сабранымі над горадам дажджавымі хмарамі, і дызельным дымам перапоўненых аўтобусаў, і — сполашнай невядомасцю.*

*— Чаго гэта метро не працуе? Зноў забастоўка? — цікавіліся гараджане.*

*— Не… Кажуць, там тэрарыст з бомбай. Бачыце, колькі міліцыі ды салдатаў нагналі…*

*А ў той час да пустога перона метро павольна пад'ехаў прыпознены цягнік. Расчыніліся дзверы, пачалі выходзіць здзіўленыя пасажыры: каля турнікетаў кожнага чамусьці пачыналі абшукваць узброеныя людзі ў бронежылетах і чорных масках…*

*— …У Зайца кейс пустым аказаўся! — надрыўна паведамляў па рацыі правіцелю старшыня Службы дзяржбяспекі. — А мае ж у яго на кухні траціл знайшлі… і тры «эргэдэшкі», з колішняга Касоўскага гарнізона… А тут — толькі ноўтбук і кніга ў кейсе! Прафесар…*

*— Якая кніга?! — правіцель сам не пазнаў свайго голасу.*

*— Ды старая нейкая, тоўстая… Зараз… Біблія, бля! Пастар хрэнаў…*

*Пад языком у правіцеля моцна запяршыла. Штось хацеў сказаць — але расцяжна ўздыхнуў і прамаўчаў.*

*Як у нейкім памараку — паехаў у Вараніху. У адзіноце да вечара прасядзеў у лазні. Па каліву, як кропельніцу, выліў у сябе з літр каньяку — і не змог забыцца да раніцы.*

*«На чорта яму здалася тая Біблія?.. Чаго яны ў нас ужо паўтысячы гадоў з ёй носяцца?..» — ліхаманіла запалены мозг.*

*А калі ўрэшце адключыўся — убачыў аграмадную аўдыторыю.*

*Перад ім — шэрагі аднолькава апранутых манекенаў. Слухаюць, а ён не можа знайсці слоў… Злосна кусае вусны, пераступае з нагі на нагу… Маўчыць…*



*І бачыць сярод пластмасавага натоўпу Каціярыну…*

*Яе стоена-пагардлівы твар.*

*І яе недасяжную прыгажосць…*

*2009–2010*

*Мінск – Бар (Чарнагорыя) –*
*Стамбул (Канстанцінопаль) – Мінск*



# У што я веру
## *(Адказваючы «Радыё Свабода»)*

У што я веру ў гэты час бязвер'я? На жаль, нямногаму і нямногім.

Веру ў зямлю і неба над ёй. Не ў Зямлю як частку космасу, а ў той лапік, на якім упершыню стаў на ногі, у той куток Случчыны, абжыты, тысячы разоў пераараны ды ўтаптаны маімі дзядамі-прадзедамі.

Веру высокім, моцным дрэвам, якія звязваюць маю зямлю з небам. Веру найперш вязу і грабу.

Веру восеньскаму верасню, у які прыйшоў на свет: у ягоную шчодрасць ды сімвалічную выніковасць.

Веру сабакам і катам. З мільярдаў людзей веру адзінкам (ды і тое, баюся, часова). З людскога царства найбольш веру нябожчыкам: яны не баяцца, не хлусяць і не зайздросцяць.

Веру ў каханне — як у адзінае, што трымае і лякуе.

Веру ў слова, у ягоную найвялікую моцу — і сонечную, і чорную. У ягоную першаснасць і першапрычыннасць.

Нарэшце, веру ў мудрага Стваральніка ўсяго вышэйназванага, у ягоную дабрыню і цярплівасць.

Мог бы паверыць у матэматычна-фізічныя формулы ды тэарэмы, але як верыць нежывому? (Нябожчыкі — выключэнне…) Я нават не веру ў тое,



што 2+2=4, бо трымаюся першаснасці й абсалюту тварэння. Тварыць — гэта значыць называць, супастаўляць, ксьціць словам. Назаві хтосьці першым чацвёрку пяцёркай, і 2+2 было б 5…

І яшчэ паэтычна хачу верыць у тое,

што не зрокся і ўнук зямлі —
узараўшы нябёсы болем,
на чырвоным арле-кані
праімчуся бялюткім полем;

што не вечны ў мурах кашчэй,
што ў нябыт павядуць не першым,
што чарніла святых начэй
яшчэ хопіць
на дзесяць
вершаў…

А з хрэстаматыйнага Купалаўскага

Ў народ і край свой толькі веру
І веру ў самаго сябе

застаецца, на жаль, толькі вера ў сябе…



# Люблін... Варшава: карона дарог

Падарожжа ў незнаёмую краіну — як знаёмства з чужой жанчынай. Праз незалежнасць кабеты спатканне доўжыцца не бясконца: назавецца, пакажацца — і шукай на няходжаных вулках…

Падарожжы вылечваюць стому паэзіі — самой паэзіяй. Пра гэта не ведаў айчым Шарля Бадлера, калі ў 1841 годзе выправіў таго ў ваколсветнае вандраванне, — каб той адвык ад «балаўства пяром». З паўдарогі Бадлер вярнуўся назад — з перапоўненымі вачыма, з бояззю не даплысці з лірычным цяжарам увесь шлях…

Але я — на жалезных рэйках, адзін у змрочным купэ, і мне не пагражае бадлераўская боязь.

Зрэдчас у вакно дзюбаюць ліхтары пераездаў, і я зашторваю шыбку, а потым і наогул адсядваю далей… Прымружваю вочы і пад нястомную казку кастрычніцкага дажджу пачынаю мроіць невядомы горад.

*Люб-лін*… Паходжанне ягонай назвы хочацца выводзіць з любові (як і Любляны, і беларускай Любані). Прынамсі, любові да бліноў: *Лю-блін*…

А назаўтра адкрыецца, што Люблін — горад сонца.

Пра гэта доўга расказвацьме невядомая птушка, калі на прыпынку буду чакаць свайго аўтобуса. І Люблін убачыцца зверху: пратуберанцы-промні



вулак старога горада сцякаюцца да акружнасцяў алеяў Тысячагоддзя і Люблінскай уніі, Каралеўскай і Любартоўскай. І я з Літоўскага пляца ўліваюся ў Кракаўскае прадмесце, праходжу Кракаўскую браму — і па мураванай гарадской артэрыі — Браме Гродскай — дасягаю Люблінскага сэрца — Ратушы. Непадалёк — у тэатры «NN» — вечарам буду чытаць свае вершы, а раніцай на шляхетных сценах замка ўяўлю сябе дрыгавіцкім вайнахам і шчыра памалюся ў капліцы Святой Тройцы, купал якой распісваў фрэскамі з выявай праваслаўнага крыжа ў цэнтры мой суродзіч.

Люблін — горад сонца.

Пра гэта пачую малітоўны спеў у манастыры Святога Войцэха, дзе пражыву цэлы тыдзень. І кожны раз буду сцярожка піць малінавую гарбату, завараную спакойнай манашкай — каб не ўкалоцца раптам дзівоснымі іскаркамі ў кубку, адбіткамі жнівеньскіх промняў, якія заблукалі-прыхаваліся ў ягаднай мякаці і толькі цяпер надумалі выскачыць, разбуджаныя звонкім кіпенем.

Перадам сваю насцярожанасць манашцы, а яна ласкава ўсміхнецца:

— То, пан, жырандоля…

І толькі тады заўважу пад высокай столлю старую жырандоль з завостранымі лямпачкамі, і нетаропкай манашцы паспею расказаць пра Паўлюка Багрыма і ягоную жырандоль у крошынскім храме: і манашка, ветліва хітнуўшы галавой, задумаецца аб нечым мінулым…

Люблін — горад сонца!

Пра гэта, урэшце, здагадаюся і сам, калі выйду днём на шпацыр і буду мружыць павекі, вычытваючы шыльды на шкляных крамках, якія гарэзліва

высоўваюцца на тратуары, — лянотна пацягваючыся й пазяхаючы прачыненымі дзвярыма.

Але задрамаць ім не дазволяць заляцальныя мелодыі неўтаймоўнага музыкі, які бадзёра цыбае па разасланым на прыпаркавую траву дыване. Аглушаныя сонечныя зайчыкі спалохана выскокваюць з лункі ягонага саксафона — адразу на зіхоткія чаравікі, з іх — у капялюш са скамечанымі тысёнцамі, пераблытаўшы, напэўна, іх зеленаватыя лісткі з капуставымі. І я не паспачуваю ім.

Люблін — горад сонца…

Новым хмурым ранкам пра гэта хорам нагадаюць кветкі. Іхні ручай збягае ад гарадской кавярні, схаванай супермаркетам, да рамантычнага парку. У кветкавых хвальках знайду ўсёмажлівае грацыёзнае мільгаценне: ад набушаўскага рамонку да экзатычнай архідэі. Гэта апошняя, перапыняючы шапаценне сяброўак, стане зманліва апавядаць пра свой жнівеньскі апёк і хаваць паранены пялёстак. Уражаны, зразумею, што шчабеча архідэя па-кітайску, на мове Шэн Тудзяна, які яшчэ ў XVII стагоддзі праспяваў сваёй каханай: «Твае рукі — дзве кветкі лян…». І я ўжо нібыта трыста гадоў ведаў, што ў Кітаі архідэю называюць ледзь не як наш лён — лян; і я — у дзіўным канфуцыянскім храме — лянскім садзе, і ўжо малады манах паказвае мне сотні ўзгадаваных ім архідэй: і сціплыя лейліі, і задзіры брасы, і фарсістыя пітэрсы, і распешчаныя катлеі (дзіянісію і катадзіну), а таксама іхніх аднакрэвак — дэйлікатлеі «барбаросу», «камерсіту» й «сэнт-гатард»…

П’янею ад водарнага хмелю адных толькі назваў, але паспяваю заўважыць, як з крыштальнай вадзяной пыльцы з’яўляецца кітаянка і, падносячы бліжэй спакусную архідэю, паказвае на яе ўнутраны



пялёстак, падобны формай да жаночых вуснаў — лабэлу, «пасадачную пляцоўку» для кветкавых апыляльнікаў.

І я таксама параўноўваю руку кітаянкі са сцяблінай кветкі, яе вусны — з загадкавым пялёсткам. І касавуруся на стоенага манаха…

А потым даганяю сябра, адзначыўшы, што гваздзікі тут пахнуць перапаленым воскам, а дома — медавухай, і запытанне паляка «Ці каштаваў пан люблінскае піва?» прыглушаю шампанскай сентэнцыяй:

— У Польшчы кветкі сціплейшыя за дзяўчат…

І, каб апраўдацца, прамоўлю мацней:

— Люблін — горад сонца!

Зрэшты, пра гэта вечарам нагадае ён сам, калі задаволены бармэн замест піва прапануе — за свой кошт — густога «Алімпу» і папросіць яшчэ раз прачытаць Міцкевіча — па-беларуску, а студэнты, якія вярнуліся з Прагі і за два дні паспелі «размяняць» у гэтай півярні ўсе заробленыя там грошы, прапануюць выпіць за Рэч Паспалітую — ад Прагі да Смаленска.

Я прыстаўлю кубак да свечкі, убачу, як заходзіць у ім бурштынна-жытняе сонца — і спакойна вып’ю за невядомага ўкраінскага каламыйца, які нават у хмельным сне ні разу не бачыў сябе ля сценаў майго Слуцака з мячом ці маўзерам…

А новым ранкам яшчэ раз упэўнюся, што Польшча — краіна храмаў. На спрадвечнай кароне дарог яны — камяні-ўпрыгожванні, камяні-ўказальнікі. І яны прывядуць мяне ў Варшаву. А быць там і не наведаць Каралеўскі палац — усё адно як напрасіцца на прыймо да прэзідэнта і збегчы. Адшукаць жа яго, палац, проста: ад касцёла Святога Крыжа,

ад чыгуначнага вакзала паднімаемся да Бельвэдэра, зварочваем да касцёла Святых Ахвяраванняў (каля яго задумаўся ў бронзе польскі апостал кардынал Вышынскі), страчваем адчуванне памераў у касцёле Узвышэння (каля яго ўзнімаецца ў нябёсы помнік Міцкевічу), глядзім на акадэмічны касцёл Святой Ганны, — засталося толькі ўзысці на шырокае ўзвышша, і мы — у Замку.

Стомленыя рукі абарончай сцяны наіўна імкнуцца ахапіць стары горад, затуліць яго ад хаосу «хлопскай» архітэктуры. Ручныя галубы, продкі якіх у 1941 годзе адвялі ад Замка нямецкія бомбы, ганарліва адмаўляюцца ад семак і, сабраўшыся ў вясёлкавую стайку, падаюцца абгаворваць модную іспанку, зайздросцячы яе доўгім зіхоткім завушніцам.

Па-сярэднявечнаму засварацца бамжы — мы на старадаўнім рынку. Па брукаванцы, з якой дождж не хоча змываць апошні летні нектар, абойдзем рынкавы пляц, дзе цяпер гандлююць толькі кастрычніцкімі кветкамі, антыкварыятам і кнігамі.

Набываю сунічнага Лесьмяна, а побач ужо чакае карэта. Забываючы на сваё аўто, сыплю фурману жменю залатовак і прашу завезці ў Вялікае Княства Літоўскае. Той неўразумела моршчыцца, а потым хітае галавой.

І давозіць да архікатэдральнага касцёла Іаана Хрысціцеля, што насупраць Каралеўскага палаца. Прачытаю аб’яву на высозных дзвярах храма: *«Дзяўчына зніме пакой у добрых гаспадароў»*.

Уваходжу ў храм — чароўную шкатулку, чарадзейную ракаўку, якая ўтаймавала і прыручыла прастору: падалося, што знутры касцёл нашмат большы, чым знадворку. З вышыняў скляпення пялёсцяцца боскія гукі аргана, і аграмадныя сцены



губляюць свой цяжар. Каб не людзі, яны б адарваліся ад пляцавай брукаванкі, і над Варшавай стала б на адну зорку болей…

Тут баішся стаць непатрэбным.

На вуліцы прачытаю другую аб’яву, якая пішацца ад касцельнага франтона да дзвярэй, па брукаванцы да суседняга будынка і, далей, — ажно да хуткага надвячорка. Аб’яву гэтую пакідаюць таропкія кроплі, і, спазняючыся на вакзал, паспею зразумець толькі некалькі размытых сказаў: *«Маладыя дождж з залевай знімуць на зімовы час пакой у добрых гаспадароў. Шклярні і цяпліны не прапаноўваць…»*.

У Брэсце цягнік мяняе колы, і ўсё выразней адчуваецца прыемная цяжасць паэзіі ў вачах. Яны пабадлераўску перапоўненыя, хоць і не такія глыбокія.

І нечакана кранае халаднаваты сполах: а раптам вагон віхнецца, і што-небудзь з іх выплюхнецца на рэйкі…

*1995*



# Ландан: мазаіка ў круглай раме

Прызнаюся напачатку: не прымаю вымаўлення (і напісання) назвы гэтага горада і праз халоднае «наркамаўскае» *о* — Лондан, і праз прысвоенае тарашкевіцай (як дзвюма пазнакамі-насечкамі над тым *о*) *ё* — Лёндан.

Гэтаму гораду найбольш пасуе роднае, стагоддзямі абцалаванае-вылізанае — спадчынна ангельскае *Ландан*. Так яно і мусіць перадавацца ў беларускай транскрыпцыі, калі, зрэшты, мы самі чакаем ад суседзяў-еўрапейцаў адпаведнага: пачуць ад іх не скорана-спаланізавана-ўбальшавічаны Мінск, а — Менск.

І не толькі таму. *О* не перадае ў націскным — а таму асноўным — складзе ўсяе сутнасці брытанскай сталіцы. *О* — хоць і больш вольнае, чым «надсоленае» *ё*, больш раскацістае, ды ўсё ж заціснутае — і ў вуснах, і ў слове. А вось *а* — амаль ідэальнае ў маўленні кола.

Як і ангельская поўнагалосая сталіца, якая радыусамі-дыяганалямі праменіцца-разыходзіцца ад успамінаў да выдумкі, ад гісторыі да заўтрашняга, ад ранку да адвячорка, ад панядзелка да ўік-энда, ад дысертацыі да верша…

Пасля ўсіх здарэнняў 11 верасня глядзім праз ілюмінатар на крыло самалёта ніякавата: такое ўжо яно лёгка-слабое, як і жыццё…



Аднак за некалькі хвіляў патрапляем са змрочнай віленска-восеньскай залевы — у мяккую бавоўну, а затым — пад сонца. Хоць на шкле малююцца марозныя ўзоры.

Яркае сонца і пякучы мароз — разам толькі над зямлёй.

За вакенцам, на светла-блакітным пухавінні — цень самалёта ў колцы вясёлкі. Як шэры дэльфін плыве па небе.

— Пад намі Амстэрдам, — паведамляе пілот. Але таму цяжка даць веры. На зямлі — акіян снегу: то роўнае поле, то белыя скірдзішчы. Не раўнуючы, Антарктыда. І не цяплее ад сцюардэсінага чырвонага віна — Père Patriarche, — адно чырванеюць шчокі, калі ўслед прыліпае сугалосная згадка пра нязменнага беларускага патрыярха…

Пасля Амстэрдама пачынаюцца снежныя замёты — як нясконцыя дзюны. Успаўзаем яшчэ вышэй — і да галоўнай ангельскай нябеснай брамы — аэрапорта Хітроў — застаецца 30 хвілінаў.

Напэўна, высокія птушкі бачаць нашую зямлю як сшытую з разнастайных кавалкаў коўдру. Толькі нашыя краўцы-шаўцы менш ахайныя за брытанскіх.

У чужамоўнай краіне пачынаеш разумець нямых і спачуваць ім больш, чым дзе-кольвек дома.

Турыст-абывацель ланданскую мазаіку можа смела ўставіць у аграмадную металёва-іскрыстую раму гарадскога «чортавага кола», якое па-сучаснаму ўзвышаецца над фанабэрыстым Біг-бэнам. Я ж, анічым не адрозніваючыся ад тых абывацеляў, не

буду рабіць таго — бо ўявіў, як яно, гэтае кола, можа крутнуцца ды пакаціцца па шарай Тэмзе.

Паспрабуй тады дагнаць карціну…

На вуліцах паміж старадаўна-выкшталцонымі будынкамі — як сучасныя зіхоткія каронкі ў роце Ландана — квадраты, піраміды з металу і шкла. Паўстагоддзя таму на іх месцы падалі нямецкія бомбы. «Карыес нацызму» з'еў шмат дамоў у бізнэс-цэнтры брытанскай сталіцы.

Як нашыя ў трыста разоў бяднейшыя студэнткі-дзяўчаткі могуць апранацца ў паўтысячу столак прыгажэй і шыкоўней за англічанак?!!

І яшчэ: чаму падораная жонкай туалетная вада ў Ландане пахне нашмат далікатней і загадкавей, чым у Менску?

Нацыянальная галерэя.

Рафаэль.

Тыцыян і «Алегорыя здаровага сэнсу»: яго тры галавы.

Імпрэсіяністы — чараўнікі аб'ёмнага святлаколеру. Клод Манэ, яго «Лілеі», «Ірысы (Касачы)». Калі маляваў сваю цнатлівую класіку, над светам бушавала Першая сусветная вайна, а над піцерскім Эрмітажам і маскоўскай Траццякоўкай — рэвалюцыя…

Баюся разбудзіць маладую цяжарную негрыцянку-музейніцу, якая спакойна дрэмле перад натоўпам.

Шкло ў півярнях настолькі чыстае, што думаеш: яго выбілі.

Тут нарэшце па-ангельску «прачышчаецца» сэнс-паходжанне аднаго беларускага імя: ALES у перак-



ладзе — ПІВЫ (балазе яго — піва — тут настолькі шмат, што яно ўжываецца ў множным ліку, — у адрозненне ад нашай постсавецкай традыцыі ПІВА з нязменна-адзіным «Жыгулёўскім»)…

Ланданскі прафесар Макмілін, нястомны даследчык-папулярызатар у англамоўным свеце беларускай літаратуры, маляўніча распавёў, як праз тое піва аднойчы да болю адчуў сябе савецкім чалавекам — у 70-х гадах у Маскве, спякотным летам, перад кіёскам з тым «Жыгулёўскім». Выстаяў даўжэзную чаргу — і аказалася, што пеністы напой разліваюць толькі ў тару спажыўцоў, што ў краіне пераможнага камунізму не хапае шкляных кубкаў… І выпхнулі б небараку з чаргі, але свет не без добрых людзей: адзін з выпівох дацадзіў мутную вадкасць з паўлітровага слоіка і выратавальна-спачувальна прапанаваў ланданцу. Так, спаталяючыся з нямытага слоіка, і адбылося прафесарскае пасвячэнне ў скуру гома саветыкуса…

Тут жа моцнае піва — у бутэльках. І завецца «ячменнае віно».

Вэстмінстэрскае абацтва аніяк не змяшчаецца ў аб'ектыў вузкага кітайскага фотаапарата, не гаворачы ўжо пра сімвалічны Біг-Бэн…

Царква Святой Маргарэт. Свечкі з шыльдамі-прапановамі маліцца за ахвяры трагедыі 11 верасня ў ЗША.

Дадаюцца ноччу адмоўныя камертоны: вуркатанне самалётаў ды віскліўыя сірэны (пажарныя, медыкі, паліцыя?). Зрэшты, паліцыя — наўрад ці. Хоць і горад — найтурыстычны, і спакойныя англічане

занепакоеныя тэрарыстычнымі атакамі, аднак за два тыдні паліцыянтаў бачыў толькі двойчы: каля амбасады ЗША правяралі паркоўку і — парачку вершнікаў. Ён і яна. Такія грацыёзныя, шчаслівыя — як на спатканне выбраліся. І іх хапае дзеля парадку ў гэтым незразумела-спакойным мегаполісе!

У парку Святога Джэймса далікатнымі светларужовымі гронкамі-суквеццямі буяюць пралескі. А над імі — лес выпешчаных пранумараваных дрэў з зялёнымі пластыкавымі карткамі-нумарамі: 07050, 07051…

На тратуарах надзвычай цесна. Усе мкнуць пад ногі… Пакуль не даходзіць: тут, як і на аўтадарозе, крочаць злева…

Вы калі-небудзь бачылі, каб вам — як тут — пасяброўску ўсміхаўся служка ў царкве? Не гаворачы ўжо аб машынісце цягніка ў метро?

Каля Брытанскага музея — як і ў Беларусі: карэнныя ланданцы-абарыгены ніякавата пытаюць, калі хочуць звярнуцца да цябе: «Вы гаворыце па-ангельску?». І толькі потым ужо — аб тым, што хацелі спытаць.

І Беларусь — як музейная тэрыторыя. Нібыта ўсе ў ёй турысты, і рэдкія абарыгены мусяць таксама пытаць: «Вы гаворыце па-беларуску?».

Наўздагон… Хіджаб і чалма — частыя атрыбуты брытанскай сталіцы. І траціна ланданскіх школьнікаў не лічаць ангельскую сваёй роднай…

Парк рэгента… падалося, тут ёсць усё. Нават ружы з назвай PERESTROJKA. Скалiёзныя такія,



прычаўрэлыя. Як і прататып. Не ў параўнанне з CAN-CAN-ам — як і насамрэч віхурную сукенку з танцаўшчыцы знялі. Паменшаную…

У парку ў ідылічнай рэчцы — і качкі, і гусі, і лебедзі (розных відаў і колераў), і рыбы, і нават чарапахі. Плаваюць сабе, дрэмлюць ды жыццю радуюцца. Зрэдку харчуюцца. Зрэдку, бо ўжо не могуць есці, не ўлазіць. А ім двухногія старэйшыя браты і сёстры сыплюць ды сыплюць булкі. Такія выціснутыя квадрацікамі пласціны… Як пліткі шакаладак. Яны адмыслова выпякаюцца і асобна прадаюцца дзеля гэтага.

— А чаму папросту не пакрышыць ім батона? — можна спытаць.

— Дык жа нязручна. І птушкі могуць падавіцца! — давядзецца пачуць…

Калі лёсіць з’явіцца на гэты свет у іпастасі звера ці птушкі, хацеў бы быць толькі ланданскім гусаком…

На выставе сучаснага мастацтва — сюррэалізм. Ён дамаляваў «Сіксцінскай мадонне» бараду і вусы, запусціў у неба коней над мужыком з ягонай — не ў прыклад летунам — абвісла-стамлёнай годнасцю… І шмат яшчэ чаго… Графіка Valentine Penrose 50-х гадоў («Dons des Féminines») вельмі нагадала ілюстрацыі Глёбусавага «Дамавікамэрона»…

У галаву не ўкладваецца (!): кошты на таксі-кэбы ў Ландане ўстанаўлівае брытанскі Парламент — і аніхто самохаць не дадумаецца іх мяняць-павышаць. А таксісты вязуць самай кароткай дарогай, і калі затор — кіроўца павінен перад тым, як аб’ехаць

даўжэйшым шляхам (хоць і хутчэйшым), папрасіць у пасажыра дазволу.

…Трэба тым, хто ўпершыню выбіраецца ў замежнае падарожжа, забараніць наведваць Ландан: пасля яго становяцца вузкімі рамы ўсіх іншых гарадоў-сталіцаў ды блякне іхняя мазаіка…

Бо ён, гэты саноўны поўнагалосы горад, і праз доўга-круглыя гады будзе радыусамі-дыяганалямі прамяніцца-разыходзіцца ад успамінаў да выдумкі, ад гісторыі да заўтрашняга, ад ранку да адвячорка, ад панядзелка да ўік-энда, ад дысертацыі да паэмы…

*2001*



# Кактэбельская анамалія

## На беразе Кімерыі

Адпачываць не стамляешся: ні дома, ні ў дарозе, ні ў гасцях.

Стамляешся не адпачываць: без сонца, без спакою, без свабоды.

Пра гэта думалася, калі вагонную бессань манатонна абрамляў стук колаў: стары-крым, старыкрым… как-тэбель, как-тэбель, как-тэбель…

З крымска-татарскага Кактэбель, куды й коціць мяне сталёвы конь, — край блакітных вяршыняў. Калі ж белым трапляеш у ягоныя абдоймы, адкрываецца новая разгадка назвы: мясцовыя непрыхавана дзівяцца на ламанай расійскай — «Как ты бел!»

Старажытныя ж грэкі звалі гэтае месца Кімерыяй. Першая згадка пра Кактэбель дайшла з V стагоддзя да нашай эры, калі кімерыйцаў змянілі скіфы, а каланісты Старажытнай Грэцыі ўбачылі ў Кактэбельскай бухце закінутую скіфа-таўрскую гавань Афінеон. У VIII стагоддзі на той тэрыторыі вырасла сярэднявечнае паселішча, марскі гандлёвы горад, які ў X стагоддзі зруйнавалі печанегі.

Праз дзевяць стагоддзяў на гэтай выпаленай сонцам зямлі, дзе сплавіліся прастора і час, нарадзіўся «курортны» Кактэбель. Ягоным хросным бацькам стаў вядомы ў Еўропе акуліст Эдуард Юнгэ. З не-

далёкай Феадосіі ён завітаў у мясцовасць — і яна нагадала яму Гішпанію. Юнгэ пачаў скупляць у мясцовых мурзакаў (дробная татарская шляхта) зямлю побач з берагам. Хацеў адрадзіць вялікую гаспадарку, збудаваць запруду ў даліне Яланчыка, каб арашаць Кактэбельскую даліну…

Жонка Юнгэ, Кацярына Фёдараўна, сябравала з Тарасам Шаўчэнкам. У Пецярбурзе была Кабзаровай перакладчыцай, калі той з натуры маляваў партрэт амерыканскага акцёра Айра Олрыджа. Зазвычай тыя сустрэчы ўкраінца й амерыканца заканчваліся так: Шаўчэнка, колішні прыгонны, спяваў народныя песні, а Олрыдж, у мінулым рабнегр, танчыў джыгу…

Паэту і мастаку Максіміляну Валошыну, маці якога пасялілася ў Кактэбелі пасля Юнгэ, мясцовы пейзаж «многімі гранямі нагадаў Грэцыю». Паэт прыехаў сюды гімназістам у 1893 годзе — і застаўся да смерці. Нават бальшавікі не здолелі адабраць у яго два дамы і два флігелі. Хоць забіралі ягоных сяброў, знаёмых. Дый яму самому даводзілася не раз бачыць сваё прозвішча ў «расстрэльных спісах». Іх паказваў Валошыну галоўны крымскі камунар Бэла Кун. «Можаш выкрасліць адно», — па-валадарску дазваляў ён паэту…

У сучасным Кактэбелі ёсць вуліцы Леніна, Калініна, нават Дэсантнікаў. А вось Юнгэ — няма. Як і вуліцы Валошына. Апошні ў гады грамадзянскай вайны выратаваў шмат кактэбельцаў. Напачатку прасіў выкрэсліваць з «расстрэльнага спісу» прозвішчы сяброў і знаёмых, пакідаючы сваё («За першую зіму было расстраляна 98 тысяч на 800 тысяч усяго насельніцтва [Крыма], г. зн. праз восьмага», — пісаў ён). А мясцовыя чабаны ўзбуджалі супраць паэта «рабоча-сялянскія суды» за нібыта знішчаных ягоным сабакам авечак… Ён жа на лодцы выпраўляўся

 

парламенцёрам і спыняў бамбаванне Кактэбеля французскім крэйсерам. А калі шасцёра п’яных бальшавікоў — «кардонная варта» — абстралялі з вінтовак англійскія караблі, якія займалі заліў, — і ў адказ Кактэбель пачалі ўціхамірваць цяжкімі снарадамі, Валошын сядзеў у сваёй майстэрні і… перакладаў «Палоннага прынца» Анры дэ Рэнье.

Вершы ж самога Валошына ў той час распаўсюджваліся ва ўлётках. І «белыя», і «чырвоныя» пры заняцці Адэсы свае пракламацыі да народа пачыналі цытаваннем ягоных радкоў…

Імя Валошына корміць Кактэбель і цяпер: «спрычыняючыся да культуры» (і пакідаючы грошы), курортнікі пасяляюцца непадалёк ад Дома паэта ды натхнёна топчуць сцежкі, па якіх калісь хадзілі Брусаў і Белы, Цвятаева і Эрэнбург, Верасаеў і Замяцін, Мандэльштам і Горкі, Грын і Булгакаў, — госці Валошына. Гэта дзякуючы яму, Валошыну, Кактэбель стаў месцам прытулку (і адпачынку) культурнай эліты. З 1931 года тут пачалося будаўніцтва Дома творчасці савецкіх пісьменнікаў.

В Коктебеле, в Коктебеле
На лазурной колыбели
Весь цвет литературы СССР…

Ну что за славная земля
Вдоль залива Коктебля…

Сёння мала хто ўжо й памятае гэтую песеньку Юлія Кіма…

Па спадчыне ў 90-х Дом творчасці перайшоў да Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. А пра Куна ды бальшавізацыю Крыма яшчэ нагадвае цэментны абеліск з наступным надпісам: *«Здесь 5 мая 1920 г. проходила Коктебельская партийная конференция, созванная подпольным обкомом*

*РКП(б), принявшая решение о развертывании повстанческого движения в тылу Врангеля».* Той абеліск з адбітай зоркай, зарослы кустом вяза ды дзікай паўднёвай травой, адшукаць у закінутым парку, дзе пасвяцца некалькі кактэбельскіх кароў, ужо амаль немагчыма…

# Інтымны дзённік Старога Крыма

«Эти пределы священны уж тем, что однажды под вечер Пушкин на них поглядел с корабля по дороге в Гурзуф», — напісаў Валошын пра Кактэбель. Пушкін жа аніводным пісьмовым словам не абазваўся пра гэтую мясцовасць. Не ў прыклад сотням іншых песняроў Кімерыі. Сярод першых у новым часе быў наш Максім Багдановіч, пра якога ў Кактэбелі няма аніякіх згадак…

Ялта — паэтава смерць, Кактэбель і Стары Крым — ягонае адраджэнне, ягоныя «залатыя дні». З рэчаіснага сёння нас мала што звязвае з Багдановічам. Нязменнымі, што мог бачыць Максім, засталіся хіба што «Вянок», віленская Вострая брама, герб «Пагоня», слуцкія паясы з музея Івана Луцкевіча ды… караван Кактэбельскіх гор. Урэшце, усё, акром апошняга, пад пытаннем: «Вянок» пажаўцеў (папера), паслабеў пераплёт, а ў перадруках змяніўся правапіс; Вострую браму шматкроць перафарбоўвалі; «Пагоня» станавілася дзяржаўнай і апазіцыйнай; пастарэлі Луцкевічавы экспанаты. А горы, што сапхнулі Кактэбель да мора, застаюцца нязменнымі ажно ад землятрусу ў юрскім перыядзе.

Як і раней — у 1915-м, калі Максім Багдановіч прыехаў у Кактэбель, — на іх няма расліннасці

 

(*«на гарах зеляніны няма: цалкам аголеныя, паныла стаяць яны, і нават трава на іх не расце»*, — згадваў паэт у сваіх нарысах «З летніх уражанняў»). Колішнія вулканныя пыл і лава і праз мільёны гадоў не нараджаюць жыцця. Кактэбельскія горы нязменныя нават у сваёй зменнасці — як нязменны ў вялікім часе хамелеон. Ранкам іх усходнія плечы ружова-блакітныя, днём — мутна-бірузовыя, вечарам — шэра-блакітныя, часткова фіялетавыя. А новым ранкам — зноў ружова-блакітныя.

Да Кактэбеля, *«найбольш цікавага месца ў Крыме»*, у Багдановіча былі ў тую крымскую вандроўку Феадосія і Стары Крым. І міжволі зноў шукаецца нязменнае… Ён прыехаў у Феадосію цягніком і на вакзале сустрэў *«шустрых камісіянераў»*, якія *«з усіх бакоў <...> выкрыкваюць назвы гасцініц»*. Гэта робіцца і цяпер на чыгуначных вакзалах Сімферопаля ці Еўпаторыі. І праз 90 гадоў, тут *«А восьмай гадзіне, калі сонца ўжо рыхтуецца пагрузіцца ў марское бяздонне, паветра свяжэе <...> — пустэльная ўзбярэжная пачынае напаўняцца <...> Усе лаўкі занятыя, на тратуары ўзбярэжнай — суцэльная вераніца гульцоў, у вечаровым змроку насустрач плывуць чырванаватыя агеньчыкі папярос, зіхцяць вочы, нясуцца абрыўкі фраз; <...> збіліся ў купкі развінчаныя маладыя людзі…».*

Развінчаных не паменела і сёння. Нязменным засталося хіба наступнае: самыя прыгожыя жанчыны з’яўляюцца на пляжы ў апошні дзень адпачынку…

У тое лета 1915 года, калі Багдановіч наведаў ціхі Кактэбель, Валошын быў у Парыжы, а ў ягоным доме гасцявалі Цвятаева і Мандэльштам.

Амфітэатр Кактэбельскіх гор нагадаў Багдановічу марскога жыхара: *«нібыта клешні гіганцкага*

*краба, далёка ідуць два мысы — левы большы, правы меншы, — і на абодвух стромкімі зломамі ўздымаюцца грэбні скал»*.

У курортным спакоі пад пякучым сонцам левыя кактэбельскія горы падобныя да вярблюдаў — схаваліся ад спёкі, і над вадой відны толькі іх сагнутыя гарбы. У вечаровай смузе тыя горы ператвараюцца ў распранутых жанчын. Іх шасцёра. Палеглі ў мора — толькі магутныя грудзі ўзвышаюцца да паніжэлага неба; дзе-нідзе пад жыватамі — далікатны пух (ці хмарка, ці кусты дзікай акацыі, ці…). Тое не змог стрываць фалічны Карадаг-вулкан — і ўзарваўся, заліўшы ліпкай лавай вакольныя абшары…

Цяпер некаторыя з гор-жанчын цяжарныя. Гэта добра бачна з пляжа Кактэбельскай бухты. Тое не мог не заўважыць і Максім Багдановіч, які прывёз у Кактэбель згадкі пра Клаву…

Без іх, без самога Багдановіча сённяшні Кактэбель няпоўны, як няпоўны Поўны збор твораў Максіма без ягонага інтымнага дзённіка, які стойвае той «курортны раман». Думаецца, што якраз у Кактэбелі пісаліся і гэтыя Максімавы радкі:

Забудется многое, Клава,
Но буду я помнить всегда,
Как в сердце шипела отрава
Любви, и тоски, и стыда…

Так і неапублікаваны дасюль інтымны дзённік Багдановіча (расчытана толькі 1/3 тэксту) распавядае пра характар аўтара, пра ягоныя погляды на жанчын, пра ўзаемаадносіны са згаданай Клавай.

Ён сустрэў яе ў Старым Крыме, дзе спыніўся перад Кактэбелем, — і пакінуў кароткі запіс: *«…вечарам разгаварыўся з Клавай. Знаёмых у мяне не было, і я кожны вечар з ёй сядзеў, гутарыў…»*.



Мы не ведаем яе ўзросту, яе занятку. Акром таго, што была яна *«в темно-синем платочке»* ды тое, што *«Клава на венецыянку з карціны М. А. Урубеля “Венецыя” падобная»*. І яшчэ мы бессаромна ведаем, што не для нас (пра тое нагадваюць частыя і незразумелыя скарачэнні) занатаваў Максім у сваім дзённіку — пра іх інтымную міло́сць. І пра тое, што было пасля яе:

«*Я не вытрымаў, устаў, да сябе пайшоў. Да трох гадзін ночы сядзеў, пісаў. На другі дзень не размаўляў, пішу. Ноч сяджу, пішу. На наступны дзень ізноў. Іду ў чацвер абедаць — Клава кажа: “Чаму вы мяне пазбягаеце?..” Слёзы нагарнуліся...*».

Залаты для паэтаў час, калі і пасля знаёмства з богам Эрасам застаюцца звароты на «вы»!

Клава лекавала ягоную душу. Доктарам цела быў Стары Крым, які не распешчаны ўрбаністычнымі вандроўкамі Багдановіч назваў «гарадком». На той час — сціплае мястэчка. А некалі — Салкат, сталіца крымска-татарскага ханства! Са статысячным насельніцтвам, з багатымі мячэцямі і палацам Батыя. Аднак у XV стагоддзі сталіцай ханства стаў Бахчысарай, і Старому Крыму засталіся парэшткі манетнага двара, старадаўняга водаправода ды ханскія магілы. І сталактытавыя пячоры ў гарах. І самі горы.

З двух бакоў закрыты імі, насычаны паветрам стэпу й лесу, цяплом і марской вільгаццю (напрамкі да мора з 15 кіламетраў), Стары Крым быў «раем» сухотнікаў. Максім мог прайсціся па галоўнай Екацярынінскай вуліцы, купляў у лаўцы Аванэсава авечы сыр-«брынзу», ляжаў на гамаку ў садзе пад чарэшняй. Вечарамі любіў піць каву за столікам пасярод тратуара, глядзець на лянівых курортнікаў,

затым — на наіўную рэкламу на дзвярах «кафейні»: «Ох, как хорош толченый кофе!».

*«А ноччу, вяртаючыся па апусцелых вуліцах дадому, пачуеш за садовай агароджай узбуджаныя галасы, жаночы смех, на асветленай тэрасе ўбачыш здалёк некалькі фігур, — і, як заўсёды, добры сум хлыне ў душу…»*

І думкі зноў запалоніць Клава…

Верагодна, яна была з Максімам і падчас ягонай вандроўкі са Старога Крыма ў Кактэбель. У сучасным Крыме тую «дзікую» дваццацікіламетровую дарогу называюць «тропою Грина». Аляксандр Грын пасяліўся ў Старым Крыме ў 1931 годзе і разоў з два пехам прайшоў па ёй — на гасціны да Валошына. «До сегодняшних дней дошли волнующие записи Александра Степановича об этих его походах», — прызнаецца ў шчырым захвіцэнні немаладога веку жанчына-экскурсавод. Пра тое, што 16 гадоў да таго сюдой прайшоў-праехаў найвялікі з усяго літаратурнага замежжа сябар украінскай літаратуры і «зводны» пляменнік Максіма Горкага Максім Багдановіч, яна яшчэ не ведае. Пасля ейнай талерантнай згоды пераназваць «Тропу Грина» ў «Сцяжыну Багдановіча» я абяцаю даслаць ёй Максімавы запісы пра тую мясцовасць: *«Сонца ўстае; яго барвовы дыск, на які вачам не балюча глядзець, святлее… Нешырокая дарога ўецца па ўскраінах гор, зарослых размаітым кустоўем і дубняком. Зрэдку раптоўна сярод зяляніны вынырне голая скала з шэрага вапняку, з падоўжнай лагчынай… унізе пад нагамі ска́ты, прорвы… стромкія бяздонні, пры выглядзе якіх да́мам становіцца жудасна…».*

Калі Клава ў той ранак паехала ў Кактэбель з ім — ёй не было страшна…



# Памаранчавае сонца

Найбольшая кактэбельская славутасць — Карадаг. Ён прыціскае паселішча справа. Гэта ў ягоным вулканным кратары Бог размяшаў адмысловае цеста ды са смакам вылепіў каменныя горы-жанчыны, якія голымі палеглі ў заліве. Здаецца, Карадаг — як непаваротлівы брантазаўр (на аграмаднай спіне якога — скалы-патырчакі) — ад спёкі хоча й сам схавацца ў мора…

На адной з вяршыняў Карадагскага запаведніка сёння іржавеюць дзве вежы. З іх дапамогай вывучалі тэмпературу зорак, хоць яшчэ не навучыліся дакладна спрагназаваць тэмпературу на бліжэйшыя дні вакол гэтай крымскай гары…

І Максіміліян, і Максім, як і сучасныя турысты, маглі любавацца Карадагам з баркаса, калі выбіраліся агледзець гару з мора, — і бачылі Жабін пляж (да жаб былі падобныя скалы), Сердалікавую бухту (дзе здабывалі камень-сердалік), Цясніну змей (тры доўгія раўчукі карадагскай лавы спаўзлі ў Кактэбельскі заліў ды застылі навечна) і, урэшце, славутыя Залатыя Вароты (вылепленыя нябеснай рукой з усё той жа вогненнай лавы). Паміж невялікімі пляжамі — пракаветныя пячоры і гроты — як пракапаныя ў пекла калодзежы.

Спустись в базальтовые гроты,
Вглядись в провалы и пустоты,
Похожие на вход в Аид… —

такія змрочныя пачуцці выклікаў Карадаг у Валошына. Іхняя аргументаванасць становіцца відавочнай, калі экскурсавод паказвае карадагскі Чортаў палец і ягоны вялізны адбітак на скале перад Вялікім гротам.

Ва ўражаннях жа беларускага паэта — больш апельсінава-памаранчавага сонца. *«Купаемся, цялёпкаемся ў моры, выходзім на бераг, каб пагрэцца на сонейку ды паляжаць на пясочку, а потым зноў у ваду»*, — запісаў Багдановіч у сваіх нататках. А непадалёк, на другой частцы пляжа, купаліся дзяўчаты і жанчыны. *«Купаліся, па дачнай прастацэ, без касцюмаў»…*

Тут, на моры, маглі наведваць маладую галаву і іншыя адкрыцці. Напрыклад, пра першую ў свеце прафесію… Прафесію партніхі, мадэльера. Фігавы ліст на Еве — узор першай вопраткі. Пра тое не мог не падумаць у Кактэбелі Максім, пра тое нельга забыцца ў «райскім» Кактэбелі пачатку XXI стагоддзя, які ахвотна замяніў фігавыя лісты сучаснымі стрынгамі. Часта толькі імі — аднымі эканомнымі стрынгамі — закрываюцца дзяўчаты і жанчыны ад кактэбельскага сонца і мужчын. А крыху ніжэй ад кактэбельскага пляжа, каля мыса Хамелеон, збіраюцца тыя, хто не прызнаюць фігавую мудрасць, — нудысты. Нуды яны на «дзікім» пляжы таксама не ведаюць.

У савецкім жа Кактэбелі за курортнымі норавамі сачылі больш пільна: «інжынерам чалавечых душ» было забаронена хадзіць у плаўках. Неслухам нават не прадавалі віно… Аднак на тое яны і творцы, каб абыходзіць забароны. Тут, у Кактэбелі, гарэзны Караткевіч збіваў з панталыку і нявестлівых гандлярак, і — што найцяжэй — сваю жонку: пойдзе ў мора ў плаўках (без кашалька), а вяртаецца… на добрым падпітку! І — не ад салёнай вады. Да плавак кемлівы паэт прышываў кішэньку — і ўжо аніхто не мог аспрэчыць, што гэта — не шорты. А ў кішэньку клаў жалезны рубель — і не размокне, і можна абмяняць на дастатковую вінную порцыю…



Многочисленны и разны
Коктебельские соблазны…

Гэтае курортнае адкрыццё адным з першых беларускіх пісьменнікаў занатуе Багдановіч. Накупаўшыся, у тое апошняе шчаслівае лета 1915 года ён нойме баркас і накіруецца да вулкана. Па дарозе яго суправаджалі дэльфіны. «*Верагодна, яны таксама здзяйсняюць экскурсію… Падскокваюць, ледзь не танчаць*», — дзівіцца Максім. Каля Сердалікавай пячоры ён будзе купацца з імі, а затым працягне вандроўку да знакамітых Залатых Варот. Аднак яны яго не ўразяць: «*Гэта — усяго толькі аграмадная скала, што ўзвышаецца сярод мора недалёка ад берага. Пасярэдзіне ўнізе яна наскрозь прамыта морам*».

Але ж кожны, хто праедзе ў Залатыя Вароты, застаецца на ўсё жыццё зачараваным Кімерыяй-Картэбелем.

І Крымам.

І адчуе яго сваім…

Россия, ты Крым,
словно лист, уронила… —

можна пачуць тут вершаваныя адкрыцці «рускакрымскіх» паэтаў… Калі і насамрэч Расія «уранила» ліст-Крым на мора — чаго ж ён так моцна, не зважаючы на вузкі Перакоп, адлівы і вятры, трымаецца за цела Украіны?

Крым больш падобны да сэрца — сэрца поўдня Еўропы, якое пампуе, не стамляючыся, кроў соцень нацыяў і народнасцяў. Тысячагоддзямі б’ецца яно ў брушной поласці Чорнага мора — пад стэпавай душою Украіны. І ў цяперашнім ягоным пашпарце — украінская прапіска.

…У тое лета 1915 года, калі Максім Багдановіч наведаў ціхі Кактэбель, расіянін-кімерыец Максіміліян Валошын у парыжскім кафэ бліз вакзала Манпарнас гаварыў пра паэзію, а ўкраінец Сымон Пятлюра ў Маскве перачытваў дасланы яму Багдановічам рукапіс артыкула пра Тараса Шаўчэнку (…Шаўчэнку, з якім сябравала жонка заснавальніка новага Кактэбеля…).

А самому Максіму ў той пасляабедны час сніліся цяжарныя жанчыны ў фігавым убранні, мора васількоў і ўзыход памаранчавага сонца.

Памаранчавае сонца засвеціць над Украінай праз дзевяноста гадоў.

Максімавы васількі як зразалі, так і зразаць-муць — то сярпы, то камбайны.

Беларусь-парадзіха — у стагоддзевым чаканні…

*2004*



# і

Усё, як вядома, некалі пачалося са слова. Затым былі сказы, летапісы, кнігі. А цяпер беларусы становяцца нацыяй літары: без кнігі, без летапісаў, без сказаў, без слова. Хоць і з паўмільённымі накладамі дзяржаўных газет, і з нястомным вяшчаннем «нацыянальных» тэлеканалаў, і ажно з дзвюма дзяржаўнымі мовамі…

Мы — нацыя, сціснутая да гука, мы — абрэзаныя да літары!

Забываючы сваю мову, губляючы сваё слова, знікаючы, мы, як даўнія інкі ці ацтэкі, адчуваем генную прагу да ўвекавечвання: складаем паэмы пра свае знакі-літары («Ь») і ставім ім помнікі («Ў»).

Па сакральным стаўленні да графічных сімвалаў мы можам раўняцца толькі з іерогліфнымі японцамі ці кітайцамі. Як старанна выводзілі свае подпісы нашыя слабапісьменныя продкі — і як замілавана драпаюць асобныя літары іх нашчадкі ў ліфтах і прыбіральнях!

Паняцці мы замяняем літарамі (М, Ж), падборам літар — успаміны (ЧК, СССР) або сродкі перамяшчэння (ЗАЗ, МАЗ). Урэшце — і корань слова «літаратура» ў беларусаў — ад літары (у суседзяў расійцаў мусіла б ужывацца слова букватура — на ўзор буквара, які савецкая педагогіка прапісала і ў беларускія слоўнікі…).

Нашыя летапісныя продкі перадавалі літарамі лікі. Яшчэ 80 гадоў назад у літары спрабавалі

адлюстраваць «дух эпохі» — і ўводзілі замест **дж** графічную выяву сярпа і молата. Сёння ж некаторыя абазначаюць літарай сваю грамадзянскую пазіцыю — праз **ь**. У сучасным беларускім жыцці нястомна выслаўляецца вялікая літара **Я**: «Я дал…», «Я построил…», «Я заставлю…».

Беларускія ж інтэлектуалы асобны статус надаюць дзвюм літарам: **ь** і **ў**, а я прапаную асобна ўганараваць тую, што запісалася паміж імі — літару **і**.

Прапаную ўганараваць літару, з якой пачынаецца Беларусь: тапаграфічнае абазначэнне мяжы на картах — палачка, кропачка; палачка, кропачка…

Прапаную ўганараваць літару-працаўніцу: пасля **а** яна сустракаецца найчасцей.

Прапаную ўганараваць найбольш пра**і**нфармаваную літару, якая здольная выказваць неахопную шматзначнасць гука **і** — гука здзіўлення, спалоху, ікоты…

Літару, помнікамі якой — старадаўнія рымскія і афінскія калоны з кропкамі ўзыходзячага сонца.

Літару-сашчэпку, літару-звязку, самы кампанейскі знак альфабэта, які злучае: Ясь-і-Яніна.

Літару, што нагадвае фігурку пінгвінападобнага чалавека — той нават нешта паказвае кароткай рукой.

Літару, якая хоць і падобная да шахматнай пешкі, але годна ўзнімаецца ў радку над іншымі.

Літару з па-беларуску сімвалічным лёсам: калі яна апынаецца заціснутай паміж галоснымі, над **і** навісае сякера — абазначэнне націску папярэдняга склада, — і ёй адсякаюць галаву, і ад **і** застаецца **й**: яна-й-я.

Літару-паходню.

Літару-перакулены клічнік.



Літару — выяву мужчынскай годнасці ў спрадвечны момант працягу чалавечага роду.

Урэшце — вынік шлюбу заходняга і ўсходняга пісьменства, сперматазоід лацінкі, які навечна пасяліўся ў беларускай кірыліцы.

І няхай жыве і плодзіцца беларуская літара **і** — амаль адзінае, што захавалася ў нашай цяперашчыне ад еўрапейскасці, — акрамя парэшткаў старадаўніх замкаў і надзеі!

Нам наканавана ставіць над І кропку!

*2005*



# Словы на асфальце

*Стэфану Эрыксану*

Шукаеш неба — знойдзеш зямлю: зняверышся, упадзеш, знікнеш.

Шукаеш зямлю — знойдзеш неба.

Аб гэтым першымі задумаліся вікінгі. Гэта ведалі марскія народы, якія падышлі да краю зямлі і сутыкнуліся з небам. І неба стала працягам іхняй зямлі. Яно лілося ў валасы, яно білася ў ветразях караблёў, яно нараджала паэтаў.

Вікінгі — першародныя паэты. Іхнія вершы — старадаўнія руны. Яны зніклі, падарыўшы скандынавіі — Скандынавію, швецыі — Швецыю. Пакінуўшы каменныя кнігі. Найстаражытныя рунічныя надпісы датуюцца VII стагоддзем, яны пульсавалі ў пісьменных руках да стагоддзя XVII-га, а шведскія сяляне карысталіся рунамі яшчэ сто гадоў назад. На адным з камянёў рунічным вязьмом увекавечана беларуская Дзвіна, па якой вікінгі-варагі прывезлі ў нашую мову скрыню (у іх — «скрынах» — яны захоўвалі свае тавары).

Забудзеш руны — успомніш руіны…

У небе — усе паэты. Ды і як ім не стаць, калі праз некалькі секунд пасля ўзлёту, пасля доўгай хмурнасці і лістападаўскай халепы, — у ілюмінатары, пад і над табой — сонца. Напачатку рассыпаныя горы бавоўны, затым густая пена… Нібыта на



зямлі — другі Патоп і хтосьці магутны пачаў мыць тваю і маю зямлю.

Магчыма, так выглядае рай — калі на ўсе папярэднія клопаты, мітрэнгі і праблемы, урэшце, на гісторыю і сучаснасць глядзець з вышыні 10 000 метраў. Якраз тут напоўніцу разумееш моўленае Максімам Багдановічам яшчэ ў дасамалётны час:

Навошта на зямлі
спрэчкі і звадкі,
калі ўсе мы разам
ляцім да зор?

Неба сучасных вікінгаў — шведаў — не зблытаеш з іншымі: яно цяжкае, халоднае і салёнае, бо настоенае на водах Паўночнага і Балтыйскага мораў. Яно мацуецца да заснежаных гор і цёплых хмарачосаў Стакгольма ды надзімаецца ў сцертыя ветразі хмараў.

У цэнтры Стакгольма няма дрэў. Заместа іх прарастае праз камяні гісторыя і гоіць гарадское паветра паданнямі, легендамі, фактамі.

У Стакгольме ўпершыню можна пераканацца, што неба не хапае. Не гораду, а табе. Хочацца зноў агледзець яго з вышыні птушынага лёту — каб разабрацца ў загадках лабірынтаў-каналаў і выспаў. Не заблукаць дапаможа ўсведамленне таго, што ў гучанні слова Стакгольм захоўваецца цокат капытоў каралеўскіх коней па гарадской брукаванцы. І пахкі вецер. Стакгольмскі вецер — небны дэзадарант.

Не дае заблукаць у Стакгольме і Стрындберг, чые выказванні ўпісаны літымі літарамі ў асфальт вуліцы Drottninggatan — пасярод, як дарожная раз-

метка. Па тых словах Стрындберга вуліца вядзе ад кватэры пісьменніка да Каралеўскага палаца. Яго, як і ўсю 10-мільённую Швецыю, ахоўваюць 15 тысячаў паліцыянтаў. У 10-мільённай Беларусі іх у дзесяць разоў больш.

Аднак не толькі гэта адрознівае нашыя краіны. Не такія далёкія — геаграфічна, гістарычна. Назіральныя суседзі-фіны нас нават аднолькава менавалі — ruotsi, або русы… А беларус Піліп Орлік з Вілейшчыны, народжаны за 300 гадоў да мяне, стаўшы гетманам і аўтарам першай канстытуцыі Украіны, а таксама галоўным ворагам Пятра I, знайшоў найблізкую дарогу ў Стакгольм, дзе пакінуў гетманскую булаву Багдана Хмяльніцкага (Швецыя перадала яе толькі Віктару Юшчанку). І сталічны шведскі аэрапорт «Арланда», кажуць, паходзіць ад прозвішча выхадца з нашай Вілейшчыны — бо месціцца на калісь падараваных яму землях…

Мы — вялікія нацыі малых краін. Але шведы — вялікая нацыя вялікай дзяржавы. Яны, як і беларусы, не маюць значных прыродных багаццяў, аднак яны — народ неба. Мы ж — зямлі. І песні нашыя, і думкі нашыя, і планы нашыя — зямныя. Шведы ж — каб наблізіць і прыручыць прастору — прыдумалі тэлефон, паравую турбіну, шарыкападшыпнік. І караблі…

Шведы змайстравалі і першы ў свеце «тытанік» — каралеўскі карабель «Васа», які адплыў ад берага і патануў. Праз трыста гадоў яго паднялі ды зрабілі музейным героем.

Калі Стакгольм — гэта гісторыя ў камені, дык «Музей Васа» — гісторыя ў дрэве. І якраз цяжар



гісторыі, думаецца, нахіліў борт карабля, а не памылка ў канструкцыі. На бартах дзевяціпавярховай аграмадзіны ўвекавечаныя фігуры міфалагічных трытонаў, русалак, імператараў старажытнага Рыма, герояў Швецыі. А пад кармавымі страпіламі на каленях знерухомелі польскія шляхцічы — як напамін пра вайну Швецыі і Рэчы Паспалітай 1620–1629 гадоў.

«Васа» будаваўся як карабель-лятак: неба для яго было там, дзе знікала зямля. Наперадзе карабля застыў драўляны леў з гербам Васа ў каралеўскіх лапах. На шчыце пад каронай — жытні сноп. Па-шведску сноп — васа, ваза (vasa). «Каласісты» давесак быў і ў аднаго з нашых каралёў — Жыгімонта Вазы.

Са шведскім паслом мы замацавалі колішнюю гістарычную роднасць «Хлебным вінам» — прывезенай з Мінска жытнёвай гарэлкай. Так назваць «вогненную ваду» маглі толькі беларусы, у якіх снапы і бутлі стаялі ў чырвоных кутах.

Нам застаецца галоўным хлеб, шведам — сімвал.

Нам — сёння, ім — заўтра.

Нават агульныя карані мы асвойваем па-рознаму: з латыні volva абазначае «каціцца». У нас ад тога слова — бульба, у іх — «Volva». Адну мы «выкочваем» з зямлі, з кастра, яны на аднайменных машынах коцяцца па аўтабанах да небакраю…

І ўрэшце ў нас — «сена на асфальце», а ў іх — словы.

У нас — знак, у іх — гук.

Мы баімся прынізіць словы, яны — узвысіць іх (і «зазямляюць», нібыта прывязваючыся словамі да глебы-дна — як якарамі).

Яны баяцца ўзляцець, мы — упасці.

А таму яшчэ не скора на перайменаванай вуліцы Карла Маркса, што вядзе да Мінскага ўладнага палаца, з’явяцца словы Якуба Коласа…

Толькі гледзячы ў неба можна знайсці сваю зямлю.

*2006*



# Яна

* * *

Яна доўга ішла праз моры-акіяны, каб за стагоддзі ўесціся ў нашае цела, затрамбаваць вены, запаланіць думкі, забіць мазгі…

Калумб прывёз яе з Амерыкі ў Еўропу. Спакон веку яна — высушаная — была ежай індзейцаў і называлася чуньо.

У 1565 годзе яе паспытаў іспанскі каралеўскі двор. У нас у той час квітнела кнігадрукаванне…

У 1588-м яна патрапіла ў Венскі батанічны сад. У нас па-старабеларуску апублікаваная адна з першых еўрапейскіх Канстытуцый — Статут Вялікага Княства…

Затым яна паланіла ваеннага фармацэўта-француза Парманцье, і ён пачаў яе культываваць масава — праз падман. Выпрасіў у караля зямлю, пасадзіў, выставіў ахову. Восенню, калі яна саспела, вартавыя ноччу знарок сыходзілі — і спакушаныя сяляне кралі яе плады. Хоць і не ведалі, што рабіць з набыткам. Гламурны Людовік XVI пачаў прыколваць ейныя кветкі на мундзір — і сяляне напачатку вырошчвалі тыя кветкі на продаж…

Дабро не прыходзіць у выглядзе падману ці хітрасці. Так, як ішла яна. Ішла прымусам праз Нямеччыну-Прусію. У 1651-м Фрыдрых Вільгельм I

выдаў адмысловы загад: тым, хто адмаўляўся яе вырошчваць, належала адразаць насы і вушы.

А яна ўмацоўвалася ва ўладзе, здабывала новых прыхільнікаў і скрыні золата. Капітулявала Галандыя, з 1740 года распачала ейны экспарт, — і атрымлівала большы прыбытак, чым ад традыцыйных цюльпанаў.

Яна акружала наш край з захаду і ўсходу. Яна наступала з Польшчы і Прусіі, Лівоніі і Масковіі. З Ратэрдама Пётр І «дзеля расплоду» прыслаў яе графу Шарамецьеву. І яна, трапна празваная «землянымі яблыкамі», прарасла на нашай зямлі, у нашых целах, нашых душах. А яшчэ ж у недалёкім XIX стагоддзі на нашых абшарах грымелі бунты: сяляне адмаўляліся садзіць «земляныя яблыкі»…

Некалі Адам з Евай паспыталі яблык — і пачалося чалавецтва. Біблейныя яблыкі спелі пад сонцам і небам. «Земляныя яблыкі» абдымаў змрок і нябыт падзем'я. Мы паспыталі іх — і пачаўся наш канец. Невыпадкова ж духавенства напачатку паставілася да яе насцярожана, празвала «спакусай д'ябла», «чортавым яблыкам». Невыпадкова ж нашыя прашчуры баяліся яе садзіць: расце — як чалавечая галава з заплюшчанымі вачыма.

За стагоддзі яна — бульба — уелася ў нашае цела, затрамбавала вены, запаланіла думкі, забіла мазгі. І мы ўжо не крывічы, не ліцвіны, не беларусы, мы — бульбашы.

У нямецкай, румынскай, дацкай, балгарскай, украінскай, расійскай мовах яна прапісалася ў корні Kartoffel. У літоўскай і беларускай — у bulves і бульбе. І толькі ў абачлівых фінаў яна сугучная грознаму богу Peruna.

Яе лёгка вырошчваць, бо расце нават у зеллі і на пяску, але ад яе цяжка абараніцца. Яна ратуе



народ — і паядае ягоную волю. Яна не дае нам памерці з голаду — і забівае нас. Бо навошта пра нешта клапаціцца: пра грошы, кар'еру, дастатак, заўтрашні дзень? Нават калі й наогул заробак не выплацяць — выратуе бульба. Нават калі яе не вырасцім — украдзём у калгасе. І самі паядзім, і парсюка выгадуем. А як прыцісне, дык з яе і самагонку выганім…

Мы не ведаем, што ўжо не першае стагоддзе ўжываем «земляны» вірус, які адрывае нас ад неба, які забівае ў нас кнігу, мову, канстытуцыю. Найбольш у свеце бульбы спажываюць беларусы…

Бах услаўляў бульбу мовай музыкі. Беларускія паэты сплялі ёй вянкі вершаў. Яна, спечаная ў вогнішчы, з маленства рамантычна апякае нам нёба — хоць апякаць павінны найперш успаміны тае маладосці, веснавы водар таго вогнішча, узлескі (ці паляны) тагачаснай закаханасці. Нарэшце, бульбе ледзь не ставяць помнікі. А яна, закрахмаленая на 25 адсоткаў, забівае-закупорвае нашыя клеткі, атрафіруе нашыя мазгавыя звіліны, адбірае ў нас памяць, знішчае нашыя мары, ператварае нас у дабіблейных істотаў. Хутка — не маючы манет — засушаныя скрылікі бульбы — чыпсы — абвесцім грашовымі сродкамі. Некалі ж на Саламонавых астравах бульба лічылася валютай…

«Бульба і замуства — вельмі сур'ёзныя рэчы, каб з імі жартаваць», — вучыць ірландская прымаўка. Нам жа — не да жартаў. За бульбу мы выйшлі замуж і ажаніліся з ёй.

І выратаваць беларусаў зможа хіба што Амерыка. Калі не валютнай інтэрвенцыяй, дык жуком, выхадцам са штата Каларада.

Нялёгкая ў каларадскага жука місія…

* * *

Калі я зазбіраўся з’явіцца на свет, мама выбірала бульбу. На агародзе, пад высокай чырвонай грушай…

Пахла спеласцю, сонцам, тлустай зямлёй, вяргінямі, макрацом і чаканнем.

У баразну да выаранай бульбы падалі саспелыя чырвоныя грушы, а ў мамы забалеў жывот. Яе адвезлі ў бальніцу, дзе яна, збіраючы сілы, нават змагла паспаць…

Калі не чалавек ёсць тое, што ён есць, дык нашчадкі — дакладна. І насамрэч: калі з пакалення ў пакаленне запаўняць свае клеткі, скажам, сінькай, — ці не пасінеем у выніку?

Элада паўстала на пшаніцы, вінаградзе ды аліўках. Рым дадаў да таго свініну. Японію, Кітай карміў рыс. І — якія культуры, цывілізацыі! А вось старажытная Амерыка, якая расла на кукурузе ды бульбе, мела выдатны клімат — што ад яе засталося?

Зрэшты, важна і тое, як і чым есці: вялікая розніца між тымі, хто спажывае рыс палачкамі і пальцамі. Апошняе не распаўсюджваецца на бульбу. У вялікіх дозах яна атрутная, бо прыводзіць да апатыі, наіўнасці, легкавернасці. І нават спрыяе развіццю крэтынізму. Бульбаедства павышае эфект бяз’ёдавасці. Крухмал спрыяе выдзяленню слізі ў арганізме, што правакуе млявасць. І абыякавасць.

Статыстыка падлічыла, што беларус спажывае за год каля 200 кілаграмаў бульбы (на Захадзе ж яе — як, зрэшты, і гарэлку — ядуць у пяць разоў менш).

І аніхто масава не прапагандуе бульбяную дыету — спажыванне караняплодаў сырымі, што лякуе



ад цынгі, залатухі, язвы, а як трэба — дык і ад гемарою…

І аніхто не прапагандуе бульбяную антыдыету…

…Калі я з’явіўся на свет, беларусы выбралі бульбу.

*2006, 2008*



# Залатая нітка Беларусі

Бог — не толькі першы творца, архітэктар, скульптар, але і ткач. Лён сваіх думак ён мацуе вязьмом запаветаў, рыхтуе кужаль дабрадаці, снуе нітку задум…

Вечную нітку.

Залатую нітку.

Беларусь таксама выткана Богам. Яе нацыянальнаму шляху Ён не пашкадаваў самых святых і дарагіх колераў: крыві свайго сына на белай плашчаніцы, — і з высокага неба цярпліва сочыць, як па тых сімвалах топчуцца пустадомкі і барбары.

У беларускіх іконах немаўлятку Ісусу на белую кашулю Ён выткаў чырвоны пояс. А ў шляхецкія ўборы — пусціў сонечную нітку. Яна і цяпер зіхціць спелым жытнёвым золатам у славутых слуцкіх паясах, на якія беларуская душа дапляла васількі.

Сёння ў тое амаль не верыцца, але так было: мой сучасны занядбаны Слуцк выступаў заканадаўцам еўрапейскай моды. Паясы Слуцкай мануфактуры 250 гадоў назад разыходзіліся ў Варшаве і Парыжы па 500 залатых дукатаў (столькі каштаваў сярэдні маёнтак з лесам і полем). Іх тэхналогіі перакуплівалі і запачаткоўвалі ў Ліёне…

Такое незвычайна нават для Кнігі Гінэса: у адным поясе магло быць каля паўкілаграма золата! Даўжыня — тры-чатыры метры, шырыня — амаль паўметра. Самыя дарагія — «літыя». Адзін бок такога мастацкага штукарства быў цалкам затканы



золатам… (*«Пас слуцкі, пас літы…»* — паэмна ўвекавечыў іх Адам Міцкевіч. Іх, растрачаных ды развезеных па музеях-сховах Расіі, Польшчы, Францыі, ЗША, Летувы. І нацысцкай Нямеччыны, аб чым сведчыў яшчэ адзін беларускі пісьменнік Рыгор Мурашка: *«Лепшым упрыгожваннем мінскай Мастацкай галерэі была калекцыя Слуцкіх паясоў — адзіная поўная ў свеце. Яна каштавала ў валюце да дзесяці мільёнаў рублёў. Праз некалькі дзён тую калекцыю пагрузілі ў нямецкія машыны і адправілі ў невядомым кірунку, па чутках — у Кёнігсберг»*.)

Слуцкія паясы рабілі адна-, двух-, трох- і чатырохбаковымі. Апошнія — найбольш каштоўныя: чырвоным бокам завязвалі пояс на імяніны, на афіцыйныя прыёмы — шэрым, на вяселле — белым, у жалобу — чорным. З краю незабыўна зіхцела вышыўка: ME FECIT SLUCIAE (Мяне зрабіў Слуцк), або ВЪ ГРАДЕ СЛУЦК.

Запачаткаваў славутую Слуцкую мануфактуру гетман Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага князь Міхаіл Казімір Радзівіл (1702–1762) па мянушцы Рыбанька. З няблізкага Стамбула ён прывёз дарагое абсталяванне і запрасіў на ўздапамогу знакамітага турэцкага майстра армяніна Аванэса Маджаранца.

Слуцакі зрабілі некалькі ўзораў заморскіх станкоў. Напачатку ў мануфактуры працавалі майстры з Турцыі і Персіі (таму ткацкая фабрыка і звалася Персіярняй). Праз некалькі гадоў іх майстэрства перанялі мясцовыя ткачы.

І пайшлі ўплятацца ў паясы васількі, незабудкі, хрызантэмы… Дубовыя, кляновыя лісты…

І Турцыя не вытрымала канкурэнцыі: усе падобныя шаўковыя паясы ў свеце незалежна ад месца іх вырабу пачалі называць слуцкімі!

Бацькава пачынанне годна працягнуў сын Кароль Станіслаў Радзівіл. Пры ім Персіярня выпускала ў год каля 200 шаўковых паясоў. Закладваліся і замежныя «філіялы»: слуцкія паясы ў той час выраблялі ў Варшаве, Кракаве, Масковіі і Францыі…

Яны нястомна ўшляхечвалі чалавека ўвесь ягоны век. Дый ім самім жыць было наканавана каля стагоддзя. Затым шляхецкая адзежа пачала адыходзіць у нябыт. Разам са шляхтай.

Колеры паясоў упляталіся ў паэзію ды хрэстаматыйна музеяцца ў «Слуцкіх ткачыхах» Максіма Багдановіча, паэтычна ўсталяваўшы беларускі «гендэрны баланс»: хто цяпер паверыць, што ў слуцкай Персіярні працавалі ткачы, а не ткачыхі?

*«Слуцкія паясы — гэта для беларусаў не проста гістарычныя рэліквіі, а частка нацыянальнай душы»*. Аніколі не здагадаецеся, што гэтае выказванне належыць быламу кіраўніку КГБ Расіі Сяргею Сцяпашыну…

Паясы захоўваліся як сямейныя рэліквіі, часта перадаваліся ў касцёлы і цэрквы, дзе з іх выштукоўвалі ўрачыстыя святарскія ўбранні.

А некаторыя — здабываючы золата — плавілі. І выпарвалі сваю душу.

Слуцкі пояс сёння — код-пазнака нацыянальнай самавітасці, млечны шлях у нашую слаўную даўніну, вытканую небна-васількова-залатымі ніткамі…

*2008*



# Ч***А

*Валерыю Казакову*

…Мова заўсёды ўсё расстаўляе на свае месцы. Праўда, часу на тое ды і чалавечых лёсаў не шкадуе.

Але што ёй, мове, з таго, калі яна была, ёсць і будзе?.. Тым больш — у такім краі, як гэты. Мне пры сустрэчы з ім нават сваю адняло — і амаль паўгода словамі апісаць яго не мог. Ды і цяпер не ўпэўнены, што атрымаецца… І ў каго, падкажыце, атрымалася: апісаць тое месца, якое б магло быць раем Адаму й Еве? Якое нават найсучасны фотаздымач скапіяваць не можа. Якое нават мастакі перамаляваць не здолелі. А тут — словамі…

Дык у каго ж тое атрымалася?.. Хіба што часткова ў мясцовых паэтаў? Але й ім — не ў крыўду — напэўна, дых і мову займала: на тэрыторыі з сярэднюю беларускую вобласць столькі ўсяго сабрана-надорана — на зямлі, у небе і вадзе, ушыркі і па вертыкалі. Дый навошта — падумалася — ім апісваць-капіяваць тую прыгажосць, калі яна — вось, перад вачыма, у руках: увесь фаліянт у краёвай бібліятэцы, з вокладкамі зямлі і неба, з закладкай мора… Як бясконцая эпапея. Ці як паэмны верлібр, які — не зважаючы на аніякія правілы — прарастае рыфмамі: жаночымі — хваляў, мужчынскімі — камянёў…

А ў каго «тое» атрымалася з нетутэйшых?.. Паэт Джордж Байран канстатаваў уражанне прозай: «У момант нараджэння нашай планеты самая прыгожая з сустрэчаў зямлі і мора адбылася ў *** [падаецца назва краіны]. Калі сеяліся жамчужыны прыроды, на гэтую зямлю выпала цэлая прыгарш-

ня». Бернард Шоу шчыра пісаў адтуль жонцы: «Вітаю цябе з найпрыгажэйшага кутка свету». А ў «гарыстага» Уладзіміра Высоцкага вырвалася прызнанне-шкадаванне:

Мне одного рожденья мало,
Расти бы мне из двух корней…
Жаль, *** [падаецца назва краіны] не стала
Второю родиной моей.

Дык — у каго ж?

Не нарадзілася яшчэ на зямлі чалавека, які б мог *условіць*-паўтарыць гэты выдатны тэкст Стваральніка.

Условіць і *ўславіць* Чарнагорыю-Montenegro.

Хоць, зрэшты, чаму Чарнагорыю, калі мова заўсёды ўсё расстаўляе на свае месцы? Чаму ўслед за збіральна-недахопным расійскім **и-я (…Германия, Турция…) паўтараецца Чарнагорыя, калі ёй удосталь і не амножанага свайго: «Црна Гора», Чорная Гара?

Ёй то дастаткова і не амножанага, але ж колькі там гор! І якіх! І мая «бязгорная» мова хоча перадаць сваю захопленасць у адпаведнай назве: Чарнагоршчына. (…Нямеччына, Турэччына…)

Хочацца верыць, што беларуская мова паспрыяла незалежнасці Чарнагоршчыны, прынамсі — яе абескамунізмванню. Бо як упісаць у беларускі слоўнік колішнюю *Юга*славію, калі мова заўсёды ўсё расстаўляе на свае месцы і калі *юг* ёсць толькі поўднем? І рассыпалася тое слова, як і Сацыялістычная Федэратыўная Рэспубліка *Юга*славія…

Там упершыню не паверылася, што краявід краіны ўплывае на характар насельнікаў. Маўляў, гор-



цы — ваяўнічы, наравісты, каменны народ. Чарнагорцы — ці не самыя мірныя, сяброўскія, лагодныя людзі. Краявід адлюстраваўся ў іх моватворстве. Краявід вады і гор. Для нас, лесавікоў, палешукоў, тое дзіўнавата: так не заўважаць (і не паважаць) у мове дрэвы! Ды якія дрэвы: лаўры, алівы, пальмы, магноліі, мімозы, эўкаліпты, алеандры, бамбук, гранаты, бугенвілію, інжыр (яго завуць смоквай), нават ківі! Тут — недалёка ад Старога Бару — у аліўкавым гаі расце самае старое дрэва Еўропы, якому больш за дзве тысячы гадоў! Тым не менш, усё хваёвае, напрыклад, завецца па-чарнагорску *црногорица* — як далепак да каменных хмарачосаў. А дубок у іх азначае… глыбокі (глыбіня, адпаведна — *дубина*). Як марская ілюстрацыя…

Краявід не толькі адлюстроўваўся ў чарнагорскім моватворстве, але і пісаў яго гукавыя нормы ды арфаэпічныя правілы. Краявід сціснуў раскоцістае *чор-на-я* ў спрасаванае *црна* (*дзяр-жа-ву* ў *државу* і пад.). Так, гарысты чарнагорскі (сербскі, харвацкі, балгарскі) краявід выціснуў са славянскіх слоў галосныя гукі — як сок з вінаграду. І, блукаючы па тутэйшых гарах, баішся, каб яны — як каменныя жорны ягаду алівы — не выціснулі і з цябе жыццёвы сок галоснасці.

Зрэшты, Чарнагоршчына не заўсёды так называлася. Дваццаць чатыры стагоддзі назад — гэта рымская правінцыя Далмацыя. Пятнаццаць стагоддзяў таму — славянская дзяржава Дукля. У 1042 годзе пад Барам дуклінскі князь Ваіслаў разбіў візантыйскае войска — і Княства Дукля першым з балканскіх земляў стала незалежным ад Візантыі. І займела новую назву — Зета. Ад назвы прытоку

сваёй асноўнай рачной артэрыі Морачы. І толькі ў сярэдзіне пятнаццатага стагоддзя назва Чорная Гара выцясняе Зету. У той жа час тут утвараецца і свая аўтакефальная праваслаўная царква. І тады ж прыкладна (1493 год) на тэрыторыі Чарнагоршчыны засноўваецца друкарскі дом — першы на Балканах, — дзе выдаваліся царкоўныя кнігі на кірыліцы.

Цяпер жа яна — кірыліца — раствараецца ў агульнай лаціне. Чаго не скажаш пра чарнагорскую мову, якую — выбачаюся — напачатку паўсюдна прымаў за сербскую. Раней за афіцыйную мову краіны быў прыняты іекаўскі дыялект сербскай. У 1863 годзе чарнагорская была «ўніфікаваная» ў адзіны сербскахарвацкі алфавіт, а са стратай самастойнасці Чарнагоршчыны ў 1918 годзе была забароненая на дзяржаўным узроўні. Аднак чарнагорцы зберагглі родную мову — сцвярджаючы, што яна больш паэтычная і выяўленчая, чым афіцыйная сербская. І ў Канстытуцыі незалежнай Чарнагоршчыны 2007 года яна атрымала дзяржаўны статус.

Неўканстытучанай жа дзяржаўнай адзнакай краіны — але прапісанай на ўсіх яе сцежках і дарогах, на вадзе і гарах, на будынках і тварах жыхароў — несумнеўна з’яўляецца спакой. Спакой у яго ўсемагчымых варыянтах-адлюстраваннях: адпачынак, ціша, лянота, лайдацтва.

Чарнагоршчына — зямны антонім працы. Яна задуманая і народжаная як край адпачынку. І не толькі геаграфічна, але і ў народным фальклоры, чарнагорскіх прымаўках-«запаветах»: «Ад адпачынку яшчэ ніхто не паміраў», «Калі ўбачыш, што нехта адпачывае, — дапамажы яму», «Чалавек нараджаецца стомленым і жыве, каб адпачываць». Ці нават



такое: «Не працуй — праца забівае». (Не тытунь забівае, аб чым пішуць на цыгарэтных пачках, — кураць тут шмат, і асабліва жанчыны…) У чарнагорскіх салодка-сонечных абдоймах усе спачываюць у паэтычнай лянотнасці: і тутэйшыя распранутыя модніцы, і лагодныя рыбакі, і рахманыя турысты, і расійскія пенсіянеры — бацькі нябедных дзяцей, і нават засмяглыя цыгане — гультаяцца папрасіць міласціну: сядзяць у дрымоце з працягнутай рукою…

Чарнагоршчына падобная да добрага сэрца — сэрца старадаўніх Балканаў. Так выглядаюць ейныя мапы, на якіх краіна — рыхтык паменшаная ў дзясяткі разоў Індыя. І такая ж загадкавая, і легендарная.

Яна — выява паэзіі: з салёным сонцам, аксамітным ветрам, цыбатымі гарамі, плацэнтнымі пляжамі, астравамі-гарадамі-казкамі, бірузовай люстэркавасцю азёр, нерэіднымі ўсмешкамі курортніц, аліўкавым шэптам цыкадаў, незашлакаванымі артэрыямі рэк, шунтамі тунэляў, радзімкамі храмаў, пергаментамі тысячагадовых манастыроў-замкаў, ахрыплым голасам гісторыі…

А яшчэ — з роднымі славянскаму вуху гарадамі й мястэчкамі — як назвамі частак яе даўняга летапісу: Падгорыца, Загора, Дабрата, Дуб, Граб, Бела поле, Пятровічы, Радзевічы…

Словам, мова заўсёды ўсё расстаўляе на свае месцы.

Як карабель назавецца — так і паплыве.

Так і з краінай, калі яна, натуральна, мае сваю мову.

І цяпер з чарнагорскага горада Бар (таго, дзе некалі князь Ваіслаў разбіў візантыйскае войска)

штодня плавае ў італьянскі Бары (па-суседству — на другі бераг Адрыятыкі) мірная аграмадзіна «Montenegrolein».

І ўсё становіцца на кругі свае: Чарнагоршчына — колішняя Рымская Імперыя, Венецыянская…

А цяпер — Еўрапейская.

*2009*



# Дрэва, або Што без кораня — не расце

*Віктару Кахнюку*

## А

…У класе чацвёртым ці пятым атрымаў я двойку. Першую і, спадзяюся, апошнюю ў жыцці. Двойку па мове.

Пачыналася вясна, абуджалася зяленіва, і ў слупок з адушаўлёнымі назоўнікамі я шчодра ўпісаў і бярозу з дубам. А яны, аказваецца, як цвердзіла школьная граматa, прадметы неадушаўлёныя, г. зн. нежывыя.

Аніяк не цяміла мая галава, чаму яно так і чаму назоўнік «труп», наадварот, — адушаўлёны…

Калі не вядома, што з'явілася першым — яйка ці курка, дык у супастаўленні чалавек/дрэва ўсё зразумела. Таму, натуральна, хто ўжо злез з апошняга.

А першымі тое, па-мойму, зрабілі друіды — паэты-жрацы старадаўніх кельтаў. І з тысячагоддзе не дажылі, каб спартызаніць немцаў-нацыстаў, па загадзе якіх выразалі сотні дубоў за вёскай маіх набушаўскіх дзядоў, а разам з тымі нацыстамі дапартызаніць і дрывасекаў развітога сацыялізму, якія збаёдалі не адну прыпяцкую дуброву.

Друіды нашмат болей за нашых настаўнікаў кумекалі і ў пытаннях педагогікі, хоць — па шчырасці — іхнія альма-матары праходзіць не хацелася б: кандыдатаў у друідскую касту чакала ў пагудаселесе выпрабаванне адзінотай (каля дваццаці гадоў жылі і навучаліся яны ў святых пушчах). Затое з маіх мрояў аніяк не можа выблытацца сухаваты белабароды жрэц, які на шосты дзень маладзіка вядзе да аграмаднага вяза двух белых быкоў, завязвае ім рогі і ўзлазіць на вузлаватыя галіны; залатым сярпом — як месяцам — зразае крыважэру-амялу, кладзе ў свой белы хітон; злятае на зямлю і пад спевы суродзічаў тым жа сярпом перацінае быкам гарлякі. Змочаная ў ахвярнай крыві амяла пасля таго станавілася цудадзейнымі лекамі, магла ратаваць нават ад наймоцнай атруты. Толькі ж мне трызніцца іншае: барадаты друід пытлюе той амялой-венікам то немцаў-нацыстаў, то дрывасекаў развітога сацыялізму, то маю настаўніцу мовы, а то і — часцей — мяне самога…

Хрысціянства таксама паўставала на дрэве. Крыж, на якім распялі Збаўцу, асіна, на якой павесіўся Юда…

І ўсё жыццё чалавек — з пакалення ў пакаленне — з дрэвам і ў дрэве: ад матчынай калыбкі да лёсавай труны.

І радавод ягоны — ад каранёў да кроны — таксама выяўляецца ў форме дрэва.

## Б

У вёсцы мы патанаем у садах, кустах, лясах, аднак не заўважаем дрэў — як тое, што было, ёсць і будзе. Не вітаем тых, якія не прыносяць пладоў.



Гонім іх (нібыта ў нас абуджаецца цяжкая памяць трыполля, калі далёкія продкі мусілі адваёўваць у лясоў сваю жыццёвую прастору: рэзаць, карчаваць, паліць — і вырошчваць на тым хлеб). Старая суседка, якая адолела за зіму два інсульты, з цяжкасцю даклыпала да майго плота і, заўважыўшы каля яго метровы дубец клёна-самаростка, шчыра-клопатна раіць: «Абламі яго, а то вырасце»…

Мы не заўважаем іх — акрамя, хіба што, некаторых знакавых, памятных. Як тыя два вязы, пасаджаныя каля маёй бацькоўскай хаты яшчэ маім прадзедам. Іх два аграмадныя маякі доўга паказвалі мне дарогу на родны прычал-падворак. Адхаваўшы пад сваім летнім ценем чатыры пакаленні Пашкевічаў і адспяваўшы ім пад акампанемент зімовых завей начныя калыханкі, яны памерлі. Памерлі — як і належыць — знакава і памятна. Бацькі пераехалі жыць да майго брата, падворак асірацеў, і ў бязветраную ноч адзін з вязаў…

«Школьная» мова не дазваляе развесці іх па полавай прыналежнасці, хоць я з маленства атаясамліваў тыя дрэвы і па роду (за што мог бы «схлапатаць» яшчэ адну двойку). Атаясамліваў і дзяліў іх на «яна» і «ён». Яна (вязыня) была больш шацістая, а знізу, паміж ствалом і карэннем, мела глыбокае дупло, у якое я доўга баяўся што-небудзь хаваць… Пазней даведаўся, што ў вязавай сям'і — некалькі дзясяткаў відаў, а ў свеце іх наогул завуць па-рознаму: ільм — ад яшчэ кельцкага «elm», па-латыні ulmus; на славяншчыне яшчэ — і бераст, і карагач, і ільмавік. Але мова чамусьці не развяла дрэвы па полавай прыналежнасці, не падзяліла (як і большасць раслінаў) на пары. Хай бы б, здавалася, кветкі гермафрадыціліся сабе ў песціках ды тычынках… А дрэвы? Ці ўсё ж не мова ў тым вінаватая,

а — закладзеная ў ёй міфалагічная памяць? Мама сполашна забараняла мне, падлетку, садзіць меншыя за мяне дрэвы-«мужчыны» (клён, дуб…), бо — казала — яны забіраюць рост. Тады я не вызначаўся даўжынёй, і — як ні карцела — не парушаў загад.

Мова ж вінаваціць ва ўсім прыроду, у сваё апраўданне прыводзячы зборна-сямейныя супрацьпастаўленні: яна-хвоя — ён-хвойнік; ён-дуб — яна-дуброва; яна-бяроза — ён-беразняк…

…Дык вось, калі набушаўскі падворак асірацеў, у бязветраную ноч вязыня ўпала. Акурат на комін, пасярод даху. І разваліла б сваім шматтонным целам хату, калі б не вяз, які рос на крокаў пятнаццаць бліжэй да сцяны. Ён і прыняў сяброўку на свае стагадовыя рукі ды на развітанне абняў яе — так моцна, што ў самага магутнага раённага крана, калі сіліўся падняць і пакласці вязыню на вуліцу, зламалася страла.

А вяз засох у адзіноце на другую вясну — і яшчэ доўга раскідваў над вёскай свае безлісцёвыя галіны, пакуль знайшліся штукары распілаваць яго ды спусціць на зямлю.

Ані каліва ягонага я не змог ні парэзаць, ні спаліць…

# В

У горадзе мы не тонем у садах, кустах ды парках, аднак бачым дрэвы — як тое, чаго не было, няма і не будзе…

Першую сваю кватэру «па чарзе» ў Саюзе пісьменнікаў у 1996 годзе я атрымаў ад бацькі-прэзідэнта. Так, гэта раней ва ўсёй гісторыі СП яго членам жыллё давала дзяржава: ці сталічна-гарадское, ці сібірска-барачнае. А цяпер першы прэзідэнт



Рэспублікі Беларусь распарадзіўся забраць дом, які будаваўся для парламентарыяў, і аддаць яго творчым работнікам. Не толькі распарадзіўся, але і асабіста прымаў яго «здачу». Сам зайшоў праверыць — акурат у мой будучы пад'езд — якасць тынкоўкі ды паклейкі шпалераў. А з ім — і тагачасны міністр культуры з драўляна-памятным прозвішчам Сасноўскі. Міністр у прапагандысцкім запале доўга распавядаў журналістам пра незвычайныя дзівосы ўбачаных ім «творчых» кватэраў: «усё новенькае, усё зіхціць… нават замочкі на паштовых скрынях з ключыкамі…».

Мой родны бацька пасля таго быў перакананы, што паркет на сынавых метрах як мінімум пазалочаны, аднак не бедаваў, убачыўшы звычайную старую планіроўку ды мутнаваты лінолеум. Ані грама, дапіваючы на ўлазінах з сябрамі трохлітровік вясковай самагонкі, не шкадаваў аб тым і я. І быў, натуральна, удзячны ўсім — ад бацькі роднага да бацькі прэзідэнцкага (хоць і ведаў, што дом у аніякіх парламентарыяў не адбіраўся, як потым пацвердзіў тагачасны спікер Мечыслаў Грыб; народным абраннікам узвялі даміну зусім па іншым праекце над Свіслаччу — нашмат бліжэй да цэнтра, чым тая «прэзідэнцкая» ў Малінаўцы). Быў, паўтараюся, удзячны, хоць размова — не аб тым. А — пра дрэвы. Якія аж трашчалі ў колішняй вёсцы Малінаўка і якіх не стала ў новаўзведзеным на тым месцы аднайменным мікраараёне. Зрэзалі старыя сады ды прысады — і каля новых каменных сценаў і цяпер — праз гады — анічога толкам не расце. Збульдозерылі пласт чарназёму, угноены вясковым клопатам і потам, — а на пустым пяску нават кусты не галіняцца. Як і тыя дубцы, якія будаўнікі ці жэсаўцы, дачуўшыся пра прэзідэнцкую праверку,

імпэтна садзілі ў замерзлую зямлю. Перад домам ломам прабівалі дзіркі ды, як аловак завастрыўшы стволік клёніка ці ліпкі, уганялі ў жоўты гравій. А вясной навасёлы дзівіліся, чаму ўраз тыя прысады засохлі. Некаторыя неразумныя апазіцыянеры (і такія прабіліся тады ў кватэрную чаргу па ордэры) зубаскалілі, што дрэўцы кеўкнуліся ад злоснага вока высокага інспектара, але ж мы яшчэ са школы ведаем: тое, што без кораня — не расце…

Не расце ўжо і яблыня-малінаўка над вырытым катлаванам, з якога пачалося будаўніцтва чарговага шматкватэрніка побач. Высільвалася па вясне яшчэ накінуць на сябе хаўтурны вэлюм з квецені — ды так і абвалілася ў кар’ер-дамавіну. У якую я паспеў укінуць свой амаль школьны вершык:

Кар’ера вузкая дамоўка
уаксамічана зімой.
Старая яблыня-вяскоўка
укленчыла перада мной…

Вакол — хрыбты мікрараёна,
выратавальны сонца круг
і госці: хворая варона
ды адзінокі вецер-зух.

А ноччу — сніць каля магілы,
як малады йшчэ гаспадар
на месяца двухзубец-вілы
збірае копы вогкіх хмар, —

нябёсы знічкамі засее
і жменю зорачак-зярнят
малінаўкі мядова-спелай
пасадзіць ля каменных хат.

Сны — снамі, а ў рэчаіснасці бульдозеры дабраліся і да высозных вербаў ды алешын за недалёкай



акружной. А яшчэ нядаўна з іх травеньскіх шатаў да вокнаў маёй малінаўскай кватэркі даносіліся салаўіныя спевы! Аднак не да пацераў… То-бок — не да спеваў, калі дарогу пашыраюць…

Адляцелі салаўі, а за імі і я — на іншую кватэру, крыху большую, цішэйшую ды бліжэйшую да цэнтра. І пакуль «чэсныя» сарокі на сваіх руплівых хвастах разносяць чуткі аб тым, што я пабудаваў пентхаўз у элітным раёне (з гаражом і саўнай) ды з паркетнага кабінета сквапна пазіраю на пасольскія асабнякі, пад маімі лоджыямі на чацвёртым паверсе шыхтом-ланцугом растуць і пераўзыходзяць паверх злева направа: нестары вяз (з падрэзанымі жэсаўскай пілой галінамі), задуменная ліпа, падшыванец ясень, дзве гонкія бярозы, каржакавата-разлапістая акацыя (белая), пенсіянерка-вярба, апатычная сліва, анарэксічная вішня, абрыкос-асілак, два двухпавярховыя букеты бэзу (белы і фіялетава-ружовы) ды дванаццаціметровая елка (каржакаватыя дубцы туі ды язміну не ў лік). Растуць яны сабе хораша ды мяне цешаць. А яшчэ — і некаторых прадстаўнікоў нашага мірнага электарату, якім заманецца то бэзу адламаць, а то — як у вясковым садзе — натрэсці на закусь абрыкосаў: балазе растуць яны, не раўнуючы, з кулак.

А дзякуючы прэзідэнту і ягонаму штодзённаму клопату аб дабрабыце мінчанаў неўзабаве недалёка ад дома з абрыкосам з’явілася новая станцыя метро. І салаўі зноў збіраюцца ў эміграцыю, перад якой паспелі наспяваць мне аб тым, што каля Адміністрацыі прэзідэнта з каштанаў дбайныя зелянгасаўцы зразаюць квецень. Маўляў, дбаюць пра чысціню ходнікаў. Бо напачатку асыпаюцца — куды вецер вее — пялёсткі, а за імі — і каштаны-лімонкі…

Думаю, што гэта — яшчэ адна вылазка ці дрывавікоў-нацыстаў, ці лесасекаў так і не развітага сацыялізму, пра што збіраюся неадкладна напісаць кіраўніку дзяржавы. Ён, колішні вясковец, павінен пашкадаваць пасаджаныя яшчэ ці не пры Машэраве каштаны, з якіх па загадзе ягоных зялёншчыкаў-апрычнікаў робяць гермафрадытаў-кастратаў. Калі ж той ліст не перададуць адрасату альбо паважаны рэспандэнт не пачуе мой клопат — і ім прысніцца сівы друід з вострым сярпом!

Бо хто нішчыць кветкі — не прычакае пладоў.

# ...Я

Калі ад аднаго з кіраўнікоў «чэснага» Саюза пісьменнікаў пачуў плётку аб маім хатнім кабінеце з выглядам на дыпламатычны корпус, чамусьці ўсплыла згадка пра апеты Адамам Міцкевічам у «Пане Тадэвушу» кабінет майго даўняга аднафамільца пісьменніка і краязнаўцы канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў Дзяніса Пашкевіча, абсталяваны ў жарале паганскага дуба, у якога было нават сваё імя:

Маёй радзімы дрэвы!
Неба мо адкрые
яшчэ мне к вам дарогу.
О сябры старыя,
ці вас тады застану?
Помню, як раслі вы,
а я вакол вас поўзаў
у свой час шчаслівы.
Ці той Баўбліс расце,
старэча дуплаваты,
ў якога ў жарале,
не меншым добрай хаты,



дванаццаць чалавек
за стол сядала ўкола?
Ці ёсць Міндоўгаў гай
ля фарнага касцёла?

*(Пераклад Пятра Бітэля)*

На жаль, разам з касцёламі і цэрквамі на нашай з Міцкевічам радзіме нішчылі і гаі з пушчамі. А таму ў класе чацвёртым ці пятым атрымаў я двойку. Першую і, спадзяюся, апошнюю ў жыцці. Двойку па мове, калі адушаўлёнымі назваў і дрэвы. Аднак і дагэтуль упарта ўважаю яе сваёй ці не найвышэйшай адзнакай. Прынамсі, у тым не запярэчылі б мне і пракаветныя друіды, і мае набушаўскія дзяды.

І я, супакоены тым, — цьфу-цьфу — стукаю па дрэве…

*2010*



# Гісторыя «Х»

Літаратура крадзе людзей. А таму нельга пісаць пра сябе і знаёмых. І не толькі даносы.

Я зразумеў тое яшчэ са школьнай лавы. Не, не ад настаўніцы літаратуры. Напісаў неяк у раёнку нататку пра калгаснага брыгадзіра. Прыхільную, ухвальную. Выйшла газета, а назаўтра брыгадзір знік. Суседзі казалі, што бедалага на радасцях запіў, але мне яшчэ тады штосьці падазронае падумалася…

Далей — болей. Студэнтам напісаў аповед, а галоўнаму герою «пазычыў» частку свайго знешняга выгляду. Да раніцы ўсё было добра. А пайшоў у душ — у люстэрку сябе не пазнаў: нос пінгвіна, вочы кітайца, замест адгадаваных патлаў — залысіны… Парваў рукапіс — і ў люстэрку зноў сябе пазнаў.

Прайшоў час. Я забыўся на тыя дзівосы. Было шмат публікацый, кніг. Сюжэтаў, як вядома, не так і шмат… З год таму напісаў раман «Гісторыя Х», у аснове якога — уласна пражытае. Найлепш, думаю, атрымалася маленства.

«Гісторыю Х» хутка выдалі кнігай. Парадаваўся, прыхаваў ганарар і — якраз лета было — паехаў адпачыць на бацькаўшчыну: парыбачыць, грыбы пазбіраць. І… заблукаў! Вось тут павінна хата стаяць — няма! Вунь там вёска была — няма нават на карце!

Расхваляваўся я, правілы дарожнага руху парушыў. Даішнік спыніў, ушчувае. Я, як звычайна,



яму сваю кнігу хацеў падпісаць — а ён моршчыцца задаволена і пасведчанне кіроўцы назад аддае.

— А сваё пасведчанне ў вас ёсць? — абнечаканьвае.

— Якое сваё? А гэтае?!

Сам жа гляджу на фотаздымак — і вачам не веру: маё прозвішча — а твар іншы: азызлы, нос пінгвіна…

Выскачыў з машыны, разгарнуў сваю кнігу — і адчуваю, што — як у пясочным гадзінніку! — маё **я** з мяне ў радкі высыпаецца! Нешта высільваюся сказаць — а ўжо там, пад вокладкай, між радкамі… Папера белізной слепіць… Друкарская фарба п’яніць, узбуджае… А каля маёй машыны нехта **не я** завіхаецца, штось натхнёна даішніку балбоча. Затым — маю кнігу падпісвае…

Даішнік прыязна ўсміхаецца, бярэ пад казырок, спешна перагортвае ззаду наперад старонкі і — а-вой! — кнігу зак…

*2007*




# Змест

*Раздзел I*

СІМЪ ПОБѢДИШИ

*Раман*



*Раздзел II*

